Казімір Камейша

# ГАЛОЎНАЯ ВЯРСТА

ВЕРШЫ І ПАЭМА



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

## ЦАГЛІНА БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Цэгла гэтых муроў
Чырванее, што кроў.
Вы па ёй правярайце трываласць
Нашых рук,
нашых слоў,
Мужнасць нашых сыноў,—
У двух печах яна гартавана.
Першай печчу цагельня аднойчы была,
Чырвань мірнага полымя ёй аддала.
І была яшчэ печ
З назвай страшнай «вайна».
Разам з цэглай людзей апаліла яна.

...Цэгла гэтых муроў
Чырванее, што кроў.
Яна з крыку уся,
Яна з болю уся.
Колькі ж можна яе абпальваць?!
...Калі ў рукі цагліну я ўзяў,
Апякла яна рукі і памяць.

## ЦЕНЬ РЫБАЛОВА

У час атамнага выбуху ў Хірасіме адзін рыбалоў сядзеў на мосце, лавіў рыбу. Ад яго застаўся толькі цень.

*Са сведчання дакументаў*

На мосце сядзеў адзін ён.
Нашто яму гурт і размовы.
Трэба рака і вудзільна
І цішыня рыбалову.

— Лавіся, лавіся, рыбка,
Вялікая і малая...
— Каб не было нам брыдка,—
Яму паплавок ківае.

Ранак, а сонца бязбожна
Пячэ,
ажно плавіць парэнчы.
І прыкурыць ужо можна
Ад гузікаў белага фрэнча.

Сягоння яму пашанцуе.
Ён сніў. Ну, а снам ён верыць.
Няхай паплавок танцуе,
Стараецца на вячэру!

Ну што ж ты, ну што, рыбалове?
Хутчэй падсякай сваё шчасце.

Трапечацца нешта малое,
Зрываецца,
хоча упасці.

Здабычы уласнай раб ты.
Сарвецца, дык ліха з ёю.
І раптам...
Усё ліхое
Здараецца толькі раптам.

Знямеў, а хацеў ён крыкнуць,
Сатлелі з вудзільнам рукі.
Не з лёскі сарвалася рыба,
А з бамбавознага люка.

Чаму ён, той выбух, грымнуў
Пад ранішнім небам белым,
І вырасла воблака грыбам,
І ўсё, што пад небам, звуглела?

Пагаслі гадзіннікаў зрэнкі,
І час перамог апантанасць.
Звуглелыя чорныя стрэлкі
Жалобна закрэслілі ранак.

Спатканні, вяселлі, радзіны —
Усё попелам стала жывое.
А цень рыбалова з вудзільнам,
Як прывід, устаў над зямлёю.

Над мёртвай ракой ён схіляўся —
Зямлю ўсю хістала чоўнам.
Ён чорнаю лёскай чапляўся
За цень бамбавоза чорны.

Караў ён,
карае і сёння
(Дарэмна хавацца за бога)
Забойцу у шлемафоне
І будучым помсціць забойцам.

Мне толькі часамі здаецца:
Свет звыкся і з горам, і з плачам.
Я цень той
на кожнай рэчцы,
Над кожнаю хатаю бачу.

Ён мне не дае спакою,
Спакою і сам не хачу я,
Пакуль над чыёйсьці ракою
Трывожнае неба чую.

Ты будзеш балець, Хірасіма,
Наступным усім пакаленням.
І будзе над вокнамі ўсімі,
Як прывід, узносіцца цень той.

## СВЯТА ПАЭЗІІ Ў ВЯЗЫНЦЫ

Хіба сюды сцежка калі зарасце?!
Вы надта ж трывала яе гацілі.
Багата сабрала хата гасцей!
А вы ж — чалавек гасцінны.
Бруіцца гамонка шчаслівая ў нас,
Далёка-далёка
чуваць гамонка.
Гамоняць разам і чаркі, і час,
І птушка,
і пчолка
над сонцам рамонка.

Ды гэта ж —
у час,
у птушак,
у пчол
Перараслі вашы мудрыя словы.
А слова паэта —
двойчы пасол,
Яно яшчэ й матчына слова!

Мы звацца людзьмі даўно пачалі,
І стуль наша доўжыцца свята.
І многа так значыць
на гэтай
вялікай зямлі
Маленькая гэтая хата!

І тая калыска,
якую яшчэ
Нашчадкі не раз разгайдаюць,
Як многа значыць для нашых вачэй,
Для памяці нашай
калыска тая.

І ўсё тут люба і звычна для нас:
І вечныя дрэвы,
І птушчыны спевы,
І гэты ставок,
наліты спаўна,
І ліпень духмяны і спелы,
І шчырыя звабныя твары дзяўчат,
Якія красою
і змрок асвятляюць,
І гэтыя песні,
што ясна гучаць
І птушкамі ў небе крыляюць.

О, Вязынка,—
слоў векавечная вязь,
Крыло
у размаху прастораў!..
Іван Дамінікавіч,
Слухаем Вас.
Цішэй!
Гаспадар гаворыць!

## КАМЕНЬ ЛЯ ВЁСКІ КАМЕНЬ

Гэта не камень,
а чаравік.
А хто забыў яго?
Сам ледавік.
Гэта ж ён пеша
тупаў здалёк,
Сляды-каменні
здалёк
валок.
І раптам ён чуе
спеў салаўя.
Пусціўся у скокі:
— Ух, я!..
Ён так чаравікам сваім
грымеў,
Аж прарок Ілья
ў калясніцы нямеў.
Там, дзе скакаў ён,
прыблуднік той,
Засталіся крушні
ляжаць гарой.
Стаміўся нарэшце:
— Ох ды ох!..
І ўслед ляцела:
— Каб ты каменем лёг!

Ён пачуў тыя словы.
І не лёг, а прысеў
На пушчанскай
вузенькай паласе.
Расшчапіў на шыі
каменны аплік,
Зняў каменнай рукою
валун-чаравік.
І забыў пра яго,
не вяртаўся назад —
Было цяжару
і так зашмат.
Ішоў заваёўнік
дарогаю той,
Спыніў чаравік яго:
— Ты хто?
Спыніўся прыблуда,
потым прысеў
На пушчанскай
вузенькай паласе.
...Знік ледавік,
заваёўнік знік.
Засталіся сляды
і яшчэ — чаравік.



Моцным сном атулены зямляне.
Засаўкі і клямкі не звіняць.
Ноччу цыганы ці марсіяне
Кралі ў пушчы белага каня.

Доўга з ім вазіліся — напэўна,
Не маглі распутаць, зацугляць.
Разбудзілі маладога пеўня.
Маладому пеўню сорам спаць!

Так ён лопнуў крыламі,
аж з саду
Сыпанула іскрамі раса.
Уцяклі за Нёман канакрады.
Конь сябе не даў у крыўду сам.

Вунь скубе ён муражок сцюдзёны,
А над ім гудзе гарачы час.
Срэбныя паблісківаюць страмёны
У яго задумлівых вачах.

Сноўдаюцца цені ў чорных масках
Ля кустоў, што зорамі гарадь...

І не трэба іншай, лепшай казкі
Для пушчанцаў,
што ў калысках спяць.

## ДЗЕНЬ ПРЫЛЁТУ БУСЛОЎ

Мурзатыя выспачкі снегу,
Пралескавы прысак палян...
І сонцам блакітным, і смехам
Палай, маё ранне, палай!
Па гэтых кастрычшчах вятрыстых
Хай выверыць шлях свой крыло.
Калі яно тут прарасло,
Дык дзе, як не тут,
яго прыстань?
Над ціхаю вёскай лясною
Аброніць вяртанне пяро.
Стамлёнай туземнай стралою
Яно упадзе на парог.
І той, хто не верыць прыкметам,
Паверыць у лепшую з іх
І ўбачыць:
плывуць нашы леты
Чародкай задумлівых крыг.
Плывуць яны Нёмнам і Шчарай.
Плывуць,
іх назад не вярнуць.
Няма ў іх буслінага шчасця
Вяртацца назад у вясну.
Калі б ім буслінае права
Плысці і вяртацца назад!
Плывуць, а ты рад ці не рад,
Якая, урэшце, ім справа.

Займаецца пушча на вечар,
Палохае ціша дарог.
Ах, лепей бы крылы на плечы,
Чым тое пяро на парог!

* * *

Музей бурштыну у Паланзе,
Як дна марскога пантэон.
Пры ўсёй да памяці павазе
За памяць лепш раскажа ён:

Плылі якія плаўнікі тут,
Паўзлі якія паўзуны,
Якіх заморцаў знакамітых
Танулі цяжкія чаўны.

Вунь ззяе мушка-векавушка
У саркафагу залатым.
Вунь — крылцы ордэнскаю стужкай,—
Нібы жывы, застыў матыль.

А вось травы адбітак рэдкі —
Сцяблінкі ў россыпе святла.
І нашай папараці кветка
Тут, у бурштыне,
зацвіла.

Ці ніць пагаслая у свечцы,
Ці то саломінка ў віне...
І ты, здзіўлёны,
мусіш сведчыць:
Усё не мёртвае на дне!

Як многа хмар плыве над векам.
Якім іх ветрам пераняць?
Нашто ж палохаць чалавека,
Давайце лепш яго здзіўляць.

## ФРАНТАВЫ АЛЬБОМ ВІСАРЫЁНА ГАРБУКА

Шчымела сэрца, калі я гартаў
Далёкія паходныя старонкі.
Клубком агню кацілася вярста,
Ад выбухаў трашчалі перапонкі.

Клубок пякельны...
Чую твой апёк,
Бяды маёй маланка шаравая.
Не, памяць анічога не хавае,
За памяццю услед ступае зрок.

Усюды чорны ды чырвоны снег.
Няўжо, няўжо ён быў калісьці белым?
Няўжо і я быў сам на той вайне?
Чаму і мне так страшна забалела?

Не дай жа божа, гэткае прысніць,
А перажыць тым больш, не дай жа божа.
Было ўсё зразумела ў тым агні —
Агонь агнём мы ўрэшце пераможам.

Гром пераможных залпаў адгрымеў.
Балюча зарубцоўваецца гора.
Я, можа, толькі сёння зразумеў,
Якім ён страшным быў, той страшны вораг.

## БЯРОЗАВІК 1978 ГОДА

*Памяці А. Бялевіча*

Пасля звонкай начы
Ціхі звон у вядзерцы.
Гэтак лёгка цурчыць,
Гэтак весела п'ецца.

Мы паставім на стол
Гэты холад салодкі
З беластвольнае той.
З ёю мы аднагодкі.

Наліваем яшчэ.
П'е сусед мой,
смяецца.
Ад ягоных вачэй
Анікуды не дзецца.

Як ён бачыць умеў,
І сказаць, і прымусіць.
Маладых разумець —
Гэта ж старасці мудрасць!

Не спяшаўся дамоў,
Да спакою, да вершаў.
Прадчуванне само
Выдае сябе вечна.

У глытку зацяжным
Быў уздых развітання.
А чатыры сцяны,
Як чатыры пытанні,

Абступалі яго
І гады варушылі.
Нейкі птах — і чаго? —
Дзюбай стукнуў у шыбу.

Не, не скажа ён нам —
А ці нам здагадацца —
Б'ецца птушкай вясна,
Хоча з ім развітацца.

Выйшаў ён і пайшоў
Па сцяжыне адталай:
Ціш гула капяжом,
Ручаём шчабятала.

Па кары, па крушы,
Па нахіленай гронцы
Пацяклі мурашы
Ручаямі і сонцам.

Колькі лет, колькі зім
Замыкаў гэты ранак?
І пралескавы зірк
Асляпіў яго раптам.

Ён ішоў і ішоў
Па сцяжынцы адталай,
Да лаўжоў, капяжоў,
Да рудых мурашоў...
Эх, было і прапала!

Вы запомніце крок,
Што ў вясне сябе спыніць.
Той апошні глыток,
Той апошні цурок,
Што у зрэнках застыне...

## ВУЧЭБНАЯ ТРЫВОГА

Адсячэ паўначы ракета,
І мы рушым за вёску,
туды,
Дзе ў дажджы захлынулася лета
І цяжарам прыгнула сады.

Трэба роўна прайсці,
асцярожна,
Не ўстрывожыць начы і дажджу.
І таму я за кропляю кожнай
Асцярожна з засады сачу.

Плашч-палатка ці плач-палатка?
Плача-плача,
Ды смешна нам.
І дарога, нібыта скатка,
Перакручана папалам.

Зараз ціш на ўсю моц заякоча,
Спорны дождж закіпіць на ствале.
А ўжо цёмная выдміна ночы
На кустах, на траве растае.

І пайшло.
У пярэхрыстах грому
Задыхнуліся поле і бор.

Хоць вучэбны той порах, а грозны.
Бой вучэбны таксама ёсць бой.

Даўжынёй у сем вёрст каманда
Перакульвае долы: «Прывал!»
Цяжка дзяцел грыміць, што кавадла,
Аж за рэчкаю недзе чуваць.

Гэй, музыкі паходныя, дзе ж вы?
Дайце стоме маёй станцаваць.
Мне чуваць, як варушыць падэшвы,
Прарастае праз боты трава.

На пагляд наш стамлёны й дакладны
Столькі з гнёздаў глядзіць птушанят!
Б'ецца з сэрцам салдацкім суладна
У птушыных грудзях цішыня.

Хай цвіце ўсё тут,
дыхае,
спее!
Сук сухі на касцёр абламлю.
На зямлі нас усё зразумее,
Калі мы разумеем зямлю.

* * *

Можа, зашпарка ідзём мы з табою.
Горка і суха дарога пыліць.
Дыхае поўдзень сілай такою —
Высахлі рэчкі,
Сасмяглі палі.

Хоць і не просяць гады супачыну,
Не засутонеў гарачы пагляд,
Трэба спыніцца хоць на хвіліну
І азірнуцца аднойчы назад.

Там дзеўчанё, як пярынка,
маленькае
У нашы сляды не патрапіць ніяк.
Услед за травой,
за пяскамі,
за рэкамі
Мчыцца дачушка, трывога мая.

Вочы вясёлыя,
Вусны не строгія.
Добра прыгледзься і твар не забудзь.
Вунь даганяе яна,
басаногая,
Тая, што Будучыняю завуць.



— Свет аб'ехаў я, зямляча,
Він заморскіх паспытаў...
— Што ж ты ў гэтым свеце бачыў?—
Я вандроўніка спытаў.

Бачыў тое, бачыў гэта,
Гэта піў і тое еў...
Быў не ў свеце, а за светам.
Я шчасліўца зразумеў.

Ад дзівосаў вочы плюшчыць,
Ўсё пабачыў, што хацеў.
А сваёй рачулкі ў пушчы,
Так і ёсць, не разглядзеў.

## АЎТОБУС «МІНСК — КЛЯЦІШЧА»

Ён, самы найранні у ранні,
Гамонку пушчанскую мчыць.
Дарога — адно гайданне,
Ўся з лужаў,
карчоў
і лагчын,

Кідае аўтобус, як мячык,
У раннюю бездань лясоў.
То ў яме рысорай заплача,
То выбежыць на пясок.
Рыпучы пясок,
                    сыпучы.
«Шафёрка,
                таварышок,
Вазьміце бабуню Пушчу,
Кошык яе і мяшок».—
«Паедзем!»
                А ехаць далёка.
«Абы дацягнуць да шашы».
Трасуцца, хоць цесна, ды лёгка,
Нібыта грыбам у кашы.
Нібы пад адною ялінай
Раслі мы блізнятамі ўсе.
І гэты аўтобус адзіны
Аднолькава ўсіх нас трасе.
Для многіх сталіца — цяпліца,
Зайздросны і ціхі сугрэў.
А ім — ці дачка, ці сястрыца,
Якую праведаць не грэх.
Парог іх у згодзе з вярстою,
І лёс іх звярстаны з вярсты.
На пашы — руно залатое,
У садзе — ранет залаты.
Паплачуць,
                як трэба паплакаць,

А трэба — дык скокі ўсю ноч.
І словы тутэйшага смаку
Часамі мацней, як віно.
З кіслінкай, гарчынкай і мёдам,
З прыпёкам крапіўным сухім.
Таму гэтак лёгка заўсёды,
Аўтобус, калёсам тваім.
Імчыш і трасеш ты гамонку —
А колькі цікаўнасці ў ёй! —
Пра нашу лясную старонку,
Пра ўсё,
 што завецца Зямлёй.
Забытай старэнькай дарогай
Пасля навальнічнай начы
Ты разам са шчасцем трывогу
За нашу планету
 імчыш.
Адкуль ёй,
 вялікай планеце,
Ды ведаць,
 што ты існуеш,
Што ў краі лясным гэтым недзе
Аўтобус маленечкі едзе
І думае пра яе.



Выйшаў ты і стаў да лесу тварам.
Павярнуўся:
там жа дом, бацькі.
Павярнуўся зноў — ідзе таварыш.
Зноў крутнуўся — тут магіл грудкі.

Думай і пра шчасце і пра вечнасць,
Не абыдзеш ісціны адной:
Як ні станавіся, чалавеча,
Да кагосьці будзеш ты спіной.



Як збіраўся я ў дарогу,
Рэчы як пачаў складаць...
Не забыцца б анічога,
Ну, і лішняга не ўзяць.

Ты, напэўна, варажыла
І ў дарожны ранец мой
Трохі смутку палажыла,
Каб вяртаў мяне дамоў.

Я падкову над парогам
Сам калісьці прыбіваў.
Весялосць карала строга,
Толькі смутак ратаваў.

Быў ён слыхам паміж намі,
Саўладаць я з ім не мог.
І з чужых абдымкаў нават
Ён вяртаў мяне дамоў.

## У КАВАЛЬСКІМ ЦЭХУ ТРАКТАРАЗАВОДА

Грымотна тут.
Не чутна нашых слоў.
Гарыць на тварах чырвань апраметна.
У кавалеўстве слаўных кавалёў
Гасцююць сёння мінскія паэты.
Ад гэтых сцен
у пушчу пабяжыць
У гумавых камашах дужы волат.
Глядзіць наш брат,
задумаўся,
маўчыць.
А цішыню куе адчайна молат.

Але не той,
                    таму ён не раўня,
Што цяжка гахаў у гуках пушчанца.
Але усё-ткі нейкая радня.
Іду з раднёй адразу прывітацца.
Страляе молат,
Хай сабе і той,
Што ўсё жыццё адно і тое ж плешча.
А ён жа так працуе,
                    як ніхто,
І пра зямлю ён думае урэшце.
О, як часамі
                    нашаму радку
Бракуе гарту.
Быць яму адкуль,
Калі паэт даўно ў сваёй душы
Агонь гартоўны лёгка прытушыў,
У ціш замкнуўся,
Шаснула ў ціш
Спалоханая думка,
                    нібы мыш.
І полымя і грому каралі,
Хачу вам пакланіцца,
                    кавалі,
За сілу вашу
                    і за сталі гарт,
За мужны ваш
                    мартэнаўскі загар.

## ПТУШКА ЗАЛЁТНАЯ

Зіма вар'яцела, люцела,
Мароз нават печы даняў,
Калі ты ў пакой заляцела
Праз сінюю фортачку дня.

За вокнамі дрэвы стамлёныя,
Па шыбіны намяло.
Птушка мая залётная,
Гладжу тваё крыло.

Хукаю на пярынкі,
Да самага сэрца гарну.
Зараз табе б хоць цяплінку,
Хоць бы адну.

Грэйся маёй цеплынёю,
Грэйся і не дрыжы.
Толькі з якой навіною
Ты заляцела, скажы?

Бачу, зусім не студзёна,
Цёпла ў тваіх вачах.
Можа, не так будзённы
Дзень я свой сёння пачаў?

Можа, пакрыўдзіў учора
І сёння пакрыўдзіў каго?

Можа, з радні хто хворы,
А я не праведаў яго?

Можа, чакаць мне кагосьці,
Можа, не прычакаць?
Можа, не госці,
а госціць
Гора у земляка?

Вочы маўчаць ды блукаюць
Паміж зімою і мной.
Тая, якой не чакаў я,
З якою ты навіной?

Не, не прыгнаў цябе холад,
Голад цябе не прыгнаў.
Ну дык сядай на прыстолак,
Залётная навіна.

Думкі свідруюць, бунтуюць.
Лёгка я жыў у жыцці,
Не ведаў, што заляціш
І раптам заставіш падумаць.

# ЗЯМЛЯК

Падымае раніца яго,
Да зары яшчэ,
Яшчэ да пеўняў.
Сам разбудзіць гэтага, таго...
Не, не спіцца аднаму, напэўна.

— Як заснуць,— смяецца,—
аднаму.
У вайну і то ўдваіх.
Бывала,
Я сваю вінтоўку абдыму,
І яна, бывала, саграваала.

Дні былі.
Былі сябры,
сям'я.
Ўсё гады паціху выкрадалі.
І мяне з-за груда, чую я,
Нехта асцярожна выглядае.

Удалец быў.
Зараз удавец.
Ды і вёска ўся,
як удавіца.
Тупае штодзень з канца ў канец,
Хоць бы добра з кім
нагаварыцца.

Калі б з кім...
І чарачка пайшла б.
Калі б з кім...

І ляснуў бы абцасам.
З пушчы цэлы двор прывёз цяпла.
Сена аж пад кроквы — для падласай.

Так вось і звякуе век —
«Трэба усяго мне прыстарацца».
Ды не адзінокі чалавек,
Чалавека выручае праца.

## З ТАГО КРАЮ...

«Мая хата з краю...»
Прымаўка старая,
Я цябе па-свойму
Сёння паўтараю.
...Мая хата з краю,
З таго краю,
Дзе стаіць, як варта,
Пушча векавая,
Дзе ўдава Алёна
Мужавай касою

Цэлы луг скасіла,
А спякотным летам
Буйнаю слязінай
Поле акрапіла.

Маё слова з краю,
З таго краю,
Дзе і дрэву й птушцы
Людзі давяраюць;
Дзе жывуць у згодзе
Адною сям'ёю;
Там, дзе з жытам разам
Высяваюць песні,
Бо стары й малеча,
Кожны ў нас з сяўнёю.
«Вось ізноў на прыпечак
Сонейка скацілася.
Каласамі буйнымі
Жыта ўскаласілася,
Пад шпаком галінка
У садзе разгайдалася,
І старая песня
З новай прывіталася».

...Мая мужнасць з краю,
З таго краю,
Дзе кап'ё чужацкае
Сонца падпірала,
Дзе браню стальную

Пушчы апраналі,
Дзе чыжынцаў воі
Пад нашыя хвоі
Зброю сваю склалі
І галовы склалі.
«Поле маё, поле,
Што ў цябе за доля!
Дзе садзілі бульбу,
Выраслі снарады.
Выраслі магілы,
Дзе капалі грады».

...Мая хата з краю,
З таго краю...
Не былі там, кажаце?
Пабываць вам раю.

## СУБОТА

Аглушыць позні стрэл паляны,
Як снег сышоў,
так сыдзе страх.
І цішыню ускружыць п'яна
Ядлоўцу паленага пах.
Гудзі, мой млын,

Дымі, вяндлярня,
Хутчэй, бярозавік, квасней!
Яшчэ сцюдзёна у вясне,
Ды хай у лазні будзе парна.

Нясе субота тлуму столькі,
Вяскоўцы «выглёнд» берагуць,
Каго пад «бокс», каго пад «польку»
Старою стрыганкай стрыгуць.

Усё адгладзяць, адпрасуюць,
Усё адпараць,
адскрабуць,
Каб затрымаць цябе на суткі:
«Ну, не спяшайся, ну, пабудзь!»

На кут паставяць пук калосся,
З гарышча скоцяць гарбузы,
Каб і багам святлей жылося,
Пратруць анучкай абразы.

Калі й было дзе зерне злосці,
Хай верабей яго здзяўбе!
Мы, глянь, з табою што за госці,
Хто ж так стараўся б для сябе?!

Нясуць закуску,
лавы мосцяць.

Хлусі,
        што-небудзь гавары.
Няўжо, няўжо мы й праўда госці?
Даруйце нам, гаспадары!

## ЗМЕШАНЫ ЛЕС

Слаўлю гэты круг адзіны
На раздолішчы зямным.
Елка ўпоплечкі з асінай.
Дуб плячысты — ля сасны.

Сіла мудрая прыроды —
Разам жыць і гушчарэць.
Як сябе, чужога родам,
Прызнаваць і разумець.

Пад зялёным сутарэннем —
Ані здрады, ні маны.
Звузлавалася карэнне
Моцным поціскам адным.

Згодна ўсе жывуць і родна.
І раўня ўсе і радня,
Хоць і сок ганяюць розны
У ствалах і каранях.

Асыпаюць зімы, леты
Проста вечнасць у прыпол.
І адным цяплом сагрэты
Белы ствол і шэры ствол.

Хоць па-рознаму шуміцца,
Як наскочыць дождж-шаптун,
А не колецца ігліца
Шаўкавістаму лісту.

Хай растуць дубы, сасонкі,
Разнакронныя зусім.
І вядуць адну гамонку,
Зразумелую усім.

## СЫМОН БУДНЫ Ў ВІШНЕВЕ

Пад хмарнымі сутарэннямі
свету
Думка ластаўкай чарціла кругі.
Што зробіш,
Гісторыя часам не пакідае
партрэтаў,
Гісторыя часам не пакідае магіл.
Ды сканае нявер'е,
Ды сканаюць праклёны,

Застануцца імёны,
Застануцца імёны.
І засвеціцца свята
У дзянёчку буднім,
І будзе Будны.
Ад сну скамянелага вас разбудзіць,
Будны.
Слова стане святлом
для сляпых і відушчых.
Пасля доўгіх бадзянняў
ён выйдзе да пушчы.
Між звяр'я,
старадрэвін
і люду грыбнога
Яшчэ раз пракляне ён
і чорта і бога.
На зямлі сапраўды калі ёсць што святога,
Дык у пушчы, вось тут,
гэта знойдзеш святое.
І сябе ўпершыню запытаўся ён:
«Хто я?»
Ён у корань глядзеў,
А адказ прагучаў з верхавін,
Недзе з нашага веку:
«Чалавек ты. Не бог.
Горда быць чалавекам!»

Людзі, людзі!
Няўжо вы і праўда глухія?

Вашых лепшых сыноў
Апякла настальгія.
Здзек здушыў,
гнёт прыгнуў,
Твары высушыў голад.
Хоць і страчана ўсё,
Ды не страчаны гонар.
Вас будзілі гарматы
Штурхачом перуновым.
Не яны разбудзілі,
Разбудзіла вас слова.

І калі ты забудзеш
той пралог і пачатак
І заснеш бесклапотным сном сваім,
Мой нашчадак,
Калі помніць забудзеш,—
Будны ёсць.
Ён разбудзіць!

## ПАЯДЫНАК

Мне дастаткова праваты,
Няхай мяне ты й раніш.
І вось ўжо з кішэні ты
Цытат абойму цягнеш.

Сцяну заступнікаў прабег,
Управа, ўлева глянуў.
Што ж, зброя верная ў цябе,
Даўно ўжо прыстраляна.

І ваяўнічы твой разлік,
Ён — сам ты ўвесь,
Ён — твой двайнік.

Ці паядынак, ці парад?
Які, ўсё роўна, вынік.
Я ціха жыў. Я думаў шмат,
Цяпер прымаю выклік.

Ці той шчаслівы, хто шустрэй,
Мы вывад свой прыпознім.
Ну, што ж, давай,
твой першы стрэл.
Ты ж не прывык апошнім.

## КІРМАШ У МІРЫ

А на кірмашы ў Міры,
Як у нёманскім віры,
Круга —
крутаверць такая,

Ажно воблакі звівае.
Барадач сівы з-пад Стоўбцаў
Рассмяшыў тутэйшых хлопцаў.
Ну і парасяты — смех.
Праўда, піску цэлы мех.
Дзед са смакам піпку смаліць,
То гарод, то сад свой хваліць.

Ды маўчыць стары ганчар —
Ходкі у яго тавар.
На далоні гладышок,
Як жывы,—
Ўсё скок ды скок.

А найлепш за ўсё народу,
Там, дзе соладка, ля мёду.
Мёд такі у пушчы рэдкі —
Залатой цаны нектар.
Так стараўся гаспадар,
Аж пчалу прывёз у сведкі.

Загарэлы, як саган,
Ля латкоў праплыў цыган.
Востры, як лязо, пагляд.
Чуб аж сонца засланяе.
Ботам ялавым ступае —
У садах грыміць апад.
А насустрач брат вандроўны.
І сячэ далонь далонь:

— Памяркоўна?
Рызыкоўна.
Згоду высеклі:
— Твой конь!

І вірыць-віруе вір,
Мірыць самых злосных Мір.
І вірыць дароў рака.
Мне ж лацвей ля земляка.
Ён лагодзіць пугаўё:
— Мы, браток, не прадаём,
Свой тавар за так даём.
А тавар той адмысловы:
Жарт пушчанскі,
З перцам слова,
Навіна з бядой урозмеш...
Як такі тавар не возьмеш?!

Не пакрыўдзіць,
Не абдзеліць
Кірмашовая нядзеля.

* * *

Гула вясна. Пацеў асфальт.
Малюнак сам не з рэдкіх.
Па вулцы сонечнай хлапчук
Нёс драцяную клетку.

А ў ёй два кенары ці мне,
Ці мо яму спявалі.
Ды так,
          што ў ліпы насупроць
Галінкі адрасталі.

«Які зямшар маленькі наш,—
Мне птушкі так прапелі,—
Мерыдыянаў абручы
Унакрыж паралелям».

І толькі вокам глянуў я
На лёгкіх ліній сетку,
Як шар зямны мне нагадаў
З-пад канарэек клетку.

І страшна стала мне тады,
І страх той не праходзіць.
Указкай атамнаю хтось
Па струнах клеткі водзіць.

...Ішоў, і песню нёс хлапчук,
І ўсміхаўся зрэдку.
Тады дагнаў я хлапчука:
«Панеслі разам клетку!»

## БАЛАДА РУХУ

Хадзіў ён доўга пешшу,
чалавек,
Хадзіў ён доўга,
шкадаваў ён ногі.
Прайшоў адзін,
другі
і трэці век,
Стаміўся.
А няскончана дарога.
На ўзлеску першабытным ён прысеў.
Смактаў травінку,
моршчыў лоб
і думаў.
Ад думак, як паляна, палысеў.
Але, дзівак, шукаў,
стараўся дужа.
Ды вось аднойчы...
(божа, што было!
Ды тут яго заслуга,
а не бога)
Прыдумаў ён і кола і крыло.
Крыло і кола — радуйцеся ногі!
Дарогі ён ірваў, як матузы,
Зямлю скрыжоўваў лёгка з вышынёю.
Ажно злятал доў картузы
І узляталі ліха над зямлёю.
Прайшлі вякі...

Адвык зусім хадзіць.
Ён толькі ехаў, ехаў, ды аднойчы...
Аднойчы страшны боль яго збудзіў.
Спавіты ў марлю,
ён адплюшчыў вочы.
Ён,
што ў жыцці палохаўся калек,
Адчуў,
як стала безданню падлога.
— Бярыце ўсё,—
заенчыў чалавек,—
Бярыце ўсё,
аддайце толькі ногі.

* * *

Я крычаў пра неба, пра аблокі.
Каб пачулі вы,
крычаў мацней.
— Недалёкі,
вось жа недалёкі,—
Помню, вы сказалі пра мяне.

Згодзен,
я і праўда недалёкі,

Зблізку я, і гэта не сакрэт,
Стуль, дзе, можа, чулі,
Налібокі.
Недалёкі,
блізкі мне ўвесь свет.

## ХОДЗІЦЬ ПА ЗЯМЛІ МАЯ МАМА...

Ходзіць па зямлі мая мама,
Вёдрамі будзіць планету.
Шлях яе біты самы —
Ад студні і да загнета.

Еду, яе пакідаю
І не пакіну ніяк.
Мама мая маладая,
Мама мая залатая,
Старая мама мая.

З доляй заручан лясною,
Сам не лясны я даўно.
Удачы няма са мною,
А мама заўсёды са мной.

Сустрэчы баюся з маною.
Са здрадай яна заадно.
Каханая рэдка са мною,
А мама заўсёды са мной.

Лёгкага бачыла мала.
Лёгкі быў крок, стаў цяжэй.
Жыве на зямлі мая мама,
Мама мяне беражэ.

* * *

Было калі нагаварыцца,
Аж млявы голас перасох.
Ты гнешся, гнешся да крыніцы
У склепе маладых лясоў.

І кружыць неба сінім вірам,
Смяецца сонца у вачах.
І ціха вусны адтапырыў
Нязнаны і ўжо блізкі страх.

Сплывае ў глыбіню спакусна
Яшчэ гадок,
яшчэ глыток.
Крыніца цягнецца да вуснаў,
Аж б'е па сэрцы халадок.



Не гімн [redacted] пяю лесарубу,
А ціха ўшчуваю яго.
Навошта ты вечнае рушыш,
Кідаеш вясну у агонь?

А ён секане мне пытаннем:
«А як жа без дрэва, скажы?»
І тут жа галінка прыўстане,
Заплача смалой на лаўжы.

Ніхто цябе строга не судзіць.
Пра суд мы давай памаўчым.
Сячы, брат,
сячы,
я не супраць.
Ты толькі разумна сячы.

Што ссечна, ўсё незагойна.
На пень яго зноў не узняць.
Лес гэты сячэш ты сягоння,
А трэскі у заўтра ляцяць.

## РАННЕ

Сваймy настрою рады,
Чужога не тапчу.
За сінія прысады
Ружовы шар качу.

Вось ён зачэпіць кроны,
Расу аб'е з лугоў.
А ты, мой свет здзіўлёны,
Падхоплівай яго.

З рук перадай у вочы
І ў сэрцы перадай
Усім, хто сонца хоча,
Дзе й сонца не відаць.

## ДОЧКАМ

Ізноў імя тваё ў двары
Лістота паўтарае.
О, як адчайна клён гарыць.
На лісцвяным яго кастры
Адчай і мой згарае.



На тым дыванку каля рэчкі
Аціхнулі даўнія спрэчкі.
Табе ясны ранак дастаўся,
А я крочыць далей сабраўся.
Шануй гэту песню і мову,
Ад вока благога ахоўвай.

## ТРЫПЦІХ ПРАЗ РОСТАНІ

(У вянок Якубу Коласу)

### 1. УРОЧЫШЧА «ДУБЫ»

Пойдзем да Нёмна.
Ён тут не цячэ, а пяе.
І ў ладкі хваляў вясёла б'е,
Калі чытае вершы зямляк,
Калі яму птах падпявае,
спявак.

Пойдзем да Нёмна.
Ля дубоў пастаім,
Што шумелі яшчэ
Над дзедам тваім.
З хмарамі чубяцца
дубы-землякі,

А ў кронах маланак гарацъ
касніки,
Шаснуў жолуд па мокрым лісці.
Ці крок паэта данесла ціш?
Дажджы ўсеўныя,
Грыбная пара.
Пойдзем.
І кошык кажа:
— Пара!
А самы лепшы грыбнік
Ён, паэт.
У гэта паверылі людзі і свет.
Паэты заўсёды былі грыбнікамі,
Нават тады, калі рыфмы шукалі.
А ён жа
грыбнік з грыбнікоў.
Ён дол гэты ўвесь перамацаў рукой.
І сабе за жыццё у далоні атрос
Цэлы Нёман празрыстых рос.
Ён кожную сцежку
ля пушчы у нас
Кіёчкам на шчасце праражагнаў.
Пойдзем да Нёмна...
Багатае лета прыйшло у Дубы,
Сеўна на ягады і на грыбы,
І добры ўлоў, і багаты ўкос.
Высокі бераг...
Высокі лёс...

## II. АЛЬБУЦЬ

Сонца толькі што ў сілу ўвайшло,
І лета толькі што сілы набрала.
Многа дарог у жыцці было,
Усякіх дарог хапала.

Гэтак сэрцу жадаецца цішыні.
Тады яму будзе лягчэй грукатацца.
І пайшоў ён у лес,
аж у тыя дні,
У якія заўсёды так лёгка вяртацца.

Недзе ў гэтых дрэвах,
У гэтых ствалах
Ёсць ягоныя, пэўна, кругі і кружочкі.
Што гады.
Як узмах крыла...
Прамільгнулі,
прабеглі наўзбочкі.

Родны кут!..
Родны кут!..
Родны кут!..
Сэрца два толькі словы
ўвесь век паўтарае.
Ён даўно зразумеў,
дрэва кожнае тут
Па паэме, не меней, хавае.

Дарагая краса
                    ў бляску смол і расы,
Навальніца птушынага спеву.
І не трэба ніякае іншай красы
Сыну гэтай зямлі для сугрэву.

Не спыняйце яго,
Не самотна яму.
Для спаткання будзе яшчэ нагода.
Трэба паэту пабыць аднаму,
Каб быць разам з цэлым народам.

### III. ПІНКАВІЧЫ

Асцярожна ступаю па гэтай зямлі,
Расхінаю зарэчнік вярбовы.
Быць не можа,
                    каб не прараслі
Хоць вярбінкай малой яго словы.
Бачыў я неаднойчы у краі лясным:
З іх такія дубы прарасталі.
З іх прызнання ўжо цэлыя пушчы ўзраслі
І да зораў дасталі.

Што ты хіліш плячук,
Незнаёмы пінчук?
Твой настаўнік і сам

Яшчэ ледзь не хлапчук,
А ўжо спеў нейкі ў сэрцы гадуе.
Але што там гады,
Сам бунтар малады,
Каго хочаш збунтуе.

«Хто сказаў,
Што тут людзі глушэй, чым камлі,
Хто? — пытаецца хлопец.—
Трэба кліч толькі кінуць,
Адзін толькі кліч.
А тут рэха магутнае,
Кліч той падхопіць».

Гэта згадваць пасля
Будзе ўнук і зямляк.
Асцярожна ступаю па гэтай зямлі.
Чую, недзе здалёк галасы усплылі.
Галасы,
галасы...
За вясной наўздагон.
«Хто вы?» — ціха пытаю.
«Мы — словы яго».

## БЕЛАЯ ВЕЖА

Над вечнай страхою
пушчанскіх бароў
Стаіш ты,
гайдаеш аблокаў вясну.
І белае стволле тутэйшых бяроз
Табе аддае сваю ўсю белізну.

Бяроза каменная
краю майго,
Ці раз цябе вораг ішоў ачарніць.
І як не паліў цябе
скрушны агонь,
А ты яшчэ болей бялела ў агні.

Ты так на чужынца глядзела
з-пад хмар,
Аж твар у таго палатнеў і бялеў.
Свяціла ты пушчы —
і вечнасць сама
У белым тваім паўставала святле.

Байніц тваіх позірк
лагодзіць зара,
Сцякае раса па каменным ствале.
І бачыцца выраю шлях
у мой край
Па белым тваім маяковым святле.

Аблокамі белымі коцяцца дні
За векам,
                за думкай маёй наўздагон.
Ты — белая крэпасць маёй чысціні,
Бяроза каменная краю майго.

## ПРЫСНЁНЫ ГОРАД

Недзе ёсць мой добры горад
З тлумнай вуліцай маёй.
Там яшчэ на ўскрайку горка
Пахне хвояй баравой.

І спакой лясны у птушак,
І не стогнуць карані.
Ён увесь з вясны, з вяснушак,
З бегатні і мітусні.

Кірмашова раскашуюць
Там і лета, і зіма.
І дзяўчаты-харашуні,
Што нідзе такіх няма.

Вось дык горад,
                дзіўны вельмі,
Я даўно яго прысніў,

Мо таму, што сам увесь
З бегатні і мітусні.

Вольна ветру,
вольна птушцы,
А галоўнае — душы.
На адной мы з ім падушцы,
Разагрэтыя, ляжым.

Мы зайздроснікаў не маем,
І яны баяцца нас.
Мы як божы дар прымаем
Келіх лёгкага віна.

Што там людзі не гавораць,
Я прыеду назусім.
Ты чакай мяне, мой горад,
Добры горад, мітусінск.

## ПЕРШАПРАХОДЦА

Дні і ночы,
Дні і ночы
У адзін зліліся дзень.
Толькі снегу скрып сарочы.
Думкі йдуць,
І ты ідзеш.

Заручон ты з гэтай доляй.
Як той сейбіт на сяўбе,
Толькі думаеш пра поле,
Забываеш пра сябе.

Ты вятрамі не абдзелен,
Мала грэты ля кастра.
Але йдзеш.
Твая сястра,
Мчыць наперадзе надзея,
І пляцецца ззаду страх.

* * *

Рэкі ўцяклі.
Засталіся масты.
Дзе вы падзеліся, рэкі.
Вось і злучыліся два берагі,
Нібы злучыліся вейкі.

Асірацелі старыя масты.
Каму пагукаць,
запярэчыць?
Стаіць,
абапёрся мой успамін
На мыліцы хісткіх парэнчаў.

Не пашанцуе, мусібыць, мне,
Чую перасцярогу —
Рэчкі ж усе на маім шляху
З пустым пераходзяць дарогу.

## ЗАМОШША — ВЁСКА УЛ. ПАЎЛАВА

З вёскі тваёй на паўсвету відно.
Ты ж нават больш яшчэ бачыш.
Вуліцу нам пераходзіць ізноў
З поўным вядзерцам удача.

Да Салігорска — святлістая шыр,
Кожны сасоннік знаёмы.
Нават калі мы на Слуцкай шашы,
Мы ўжо, лічы, з табой дома.

Сцежак тваіх я спакой верадзіў.
Госця хоць позна тут будзяць,
Сцежкі такія,
што, як ні пайдзі,
Выйдзеш заўсёды у людзі.

Матчына песня рачулкай бяжыць
У новавечча з прырэчча.
Тут, на магнітнае стужцы сцяжын
Голас матулі засведчан.

Круціцца стужка.
Хаця б не парваць —
Столькі калёс яе круціць.
Еду ў Замошша тваё гасцяваць
Ад камянічнае скрухі.

Грузна ў садах.
А ў гародах паўсюль
Вывадак спіць гарбузовы.
Светла,
праз вочы сыноў і матуль
Сяброўства цягнецца зона.

## АБУДЖЭННЕ

На голлі грак пералічыў
Да панядзелка дні.
У гон пагнала касачы,
Ушыркі — карані.

Я зноў забудуся на ўзрост,
Прылягу на траве.
На цёплых аблачынках гнёзд
Мой новы май плыве.

І белацвет, і жаўтацвет,
Цягучы дых смалы
Ідуць за песняю услед
Да берагоў Сулы.

Чуваць ад кветкі да вулля
Пчалінай трасы звон.
І гэтак дыхае зямля,
Аж рушыцца бетон.

## КАСЦЁР ЛЯ НЁМАНА

Ах і цурболіць дожджык-часцён,
Хоць бы спачыў на хвіліну.
Ды гарыць касцёр.
Касцёр хіцёр,
Схаваўся касцёр пад яліну.

Больш аніхто не падыдзе да нас,
Круг нам вялікі не трэба.
Пэўна, прасмольвала лодкі вясна —
Гэтак закурана неба.

Вось бы такую нам лодку цяпер,
Каб даплыла да юнацтва.
Там пакідалі калісьці цябе.
Ты не схацеў там застацца.

Садам здавалася райскім яно.
Ты не прыняў тыя пешчы.
Сын плытагона.
Сын, не сынок,
Не, не сядзеў ты на печы.

Зараз, напэўна, паплыў бы туды,
Ды і цяпер не застаўся б,
Толькі б украў у гадоў маладых
Тую Ганусю ці Стасю.

Бераг высокі ля Нёмана тут,
Свет разглядзець гэтак лёгка.
Вось паплыла,
                    ды нябачна, адтуль
Штось не вяртаецца лодка.

Вечар дажджлівы.
Дык будзь жа здароў!
Кружыць нас моц аржаная.
Хай жа харошых і верных сяброў
Думка мая даганяе.

Можа, камусьці вам сёння, сябры,
Недзе ікнулася дома.
Ведайце, гэта мы тут, пры кастры,
Словам вас згадвалі добрым.

## ЗАБЫТАЯ ХАТА

На ганку ўтравелым
Стаім і маўчым,
Глядзім на дарогу тлумную.
Вянцы бярвенняў —
радкамі маршчын.
Думае хата,
думае.
Думае хата
за век, за сябе,
За чалавека,
што жыў у хаце.
Рос каля ганка нейкі дубец,
І той адзічэў, ссахацеў.
Застаўся вартай трывалай кот.
Сям'і карнавухай
прыдбаў паўгарышча.
Коп'і свае апусціў частакол,
Дзядоўнік гудзе на дварышчы.
На клямцы аглухлай
дождж заржавеў
З далёкай забытай восені.
А там,
за дзвярыма,
ўспамін мой жыве,
Самы дзівосны.
Ну, пэўна ж, не ён вінаваты,
наш век,

Магутны,
шалёны,
зацяты,
Што недзе бяздомным жыве чалавек.
А недзе — бязлюднаю хата.
Хай лепш не бетонам,
Марозам скуюць
Зямлю гэту,
вольную духам.
Думае хата думу сваю,
І ты, чалавек, падумай.

## ГЕРБАРЫЙ ЭЛІЗЫ АЖЭШКА

Дык шчырае дзякуй нагодзе,
Што маю такое спатканне.
У луг не майго стагоддзя
Мяне вы паклікалі, пані.

За даўнасці жоўтай мяжою
Я позірк гарачы пазнаю.
Сем ручак палёстак ружовых
Ружовае сонца трымаюць.

А там вунь
каптурык, дый годзе,
Пчала яго зацалавала.

Ды ў леце майго стагоддзя
Кветка закрасавала.

Па гэтай жа конь улана,
Ад заедзі п'яны,
таптаўся.
Яна ж, калі добра глянуць,
З неба і са святла ўся.

Квяцісты прыпол каханкі
Няхай у вяках не зліняе.
Знаёмых тычынак маланкі
Мне проста у сэрца цаляюць.

Я з гэтаю кветкаю побач
У лузе стаяў на каленях.
А страх яшчэ й сёння помніць
Далёкага лета маленне.

Калі ж у далоні тыя
Чужынцы цвікі забівалі,
Палілі агнём у Хатыні,
Ці кветкі тады змаўчалі?

А што яны могуць?
А вось што:
Заплакалі кветкі ў лузе,
Ды так, што ў слязах іх вораг
Адразу тады захлынуўся.

Я сам гэта бачыў.
Я сведка.
Давайце спрачацца не будзем.
Вось што яны могуць, кветкі —
Усё, што вы можаце, людзі!

## ЧОРНЫ БУСЕЛ

Вось і ў мой куток нарэшце
Заявіўся чорны бусел.
На шляху былое рэчкі
Я стаю, з яго дзіўлюся.

Дзюба ўся з агню і ногі.
Уцякаў, відаць, з пажару.
Ну а пер'е у нябогі
Пачарнела ўсё ад жаху.

Хай бы жыў у вёсцы лепей
З белым братам дзверы ў дзверы.
Пасяліўся недзе ў лесе.
Ну а хатам не, не верыць.

Нават той не верыць кнізе,
Што пад колер ног і дзюбы,
Усміхаецца шумісе
Вечаровай
каля клуба.

Заклякоча ў полі трактар,
А ў яго свае гавэнды.
Тут прыйшлі на памяць раптам
Дзесьці чутыя легенды.

Што легенды?!
Сумных, розных,
Шмат было і шмат іх будзе.
Хай жа лепш не з іх,
а з гнёздаў
Узлятае чорны бусел.

## СТАРАЯ СТРЭЛЬБА

Не, гэтую стрэльбу я вам не прадам.
Я ўнуку унука яе перадам.
Для хаты бацькоўскай яна — талісман.
І сведкаю памяць — страляе сама.
Не трэба прыклад да пляча
прыкладаць.
Куды пападзеш ты,
не трэба гадаць.
Глядзіш,
і ружовае джальца агню
Страху падсмаліла і грыву каню.

Пачулі за рэчкай.
І солі зарад
Не рад,
а ўсё ж атрымаў канакрад.
Прыклад не ў плячо штурхануў,
а ў сцяну.
І памяць, і памяць маю
ўскалыхнуў.
А там па сухой двухкалейцы ствалоў
Двухгорлае рэха у ноч загуло.
І жарт налібоцкі панёсся услед:
— Нічога тут страшнага,—
кашляе дзед.
Прастуджаны дзед,
нібы пушча сама.
Ёсць стрэльба,
а значыць, спакою няма
Звяр'ю, што яшчэ ўсё завецца звяр'ём.
Не спіць тая стрэльба ні ноччу ні днём.
А можа, яна вінавата адна,
Што мала да пушчы прапісана нас,
Што мы ўрассыпную,
як тыя шраціны,
Пасыпалі недзе ў чужыя мясціны?
І нас не сабраць, як бы вы ні хацелі.
Мы надта ж імкліва,
шалёна ляцелі.
Ды гэта, даруйце, здагадкі мае.
Бо сёння ледзь толькі пачуюць яе,

Бягуць да мяне і ласі і зайцы,
Смяюцца, аж ломіцца хвойнік,
глушцы.
Ото ж дзівакі,
як іх лес не вучыў,
Смяюцца, і самі не знаюць над чым.
...Не, гэтую стрэльбу я вам не прадам.
Я ўнуку унука яе перадам!..

## АЛЬПІНІСТЫ

Равеснікі!
А я вам спагадаю.
Хто вам імпэт вандроўны перадаў?
Адных хада адправіла за далеч,
Другім угору — лёгкая хада.

Эх, альпіністы,
Сонца рэжа ў зрэнкі.
І богам кожны з вас не беражон,
Хоць, праўда, за спіной рукзак маленькі,
Хоць, праўда, з невялікім багажом.

Тут трэба зразумець:
Багаж вялікі,
Ён тое ж прыцяжэнне да зямлі.

А вы ж угору аж да тога піку
Разгон звышрызыкоўны узялі.

Штурмуйце,
Заваёўвайце, штурмуючы,
Але прашу, не забывайце іх,
Хто кожны крок ваш,
                    дабрынёй страхуючы,
Каля падножжа ў роспачы стаіць.

* * *

Раслі і падрасталі разам.
Ён быў тады ўжо разумней.
Я слыў адчайным верхалазам.
А ён зайздроснікам пры мне.

На дрэва, помню, я ўзбіраўся —
Зямля звысоку харашэй.
А ўнізе ён дрыжэў, смяяўся
І падахвочваў:
                    — Лезь вышэй!

У баязліўца я не верыў.
Хоць думкі іншае цяпер:
Як дрэва асядлаў кар'еры,
Ён тут жа сігануў уверх.

## АБ'ЯВЫ НА СЛУПАХ

Такія былі мае справы,
Не дома я быў, не ў гасцях.
Хадзіў і чытаў аб'явы,
Што густа раслі на слупах.

Аж рэзала перапонкі,
Крычаў несуладны хор:
«Хоць зараз куплю дублёнку»,
«Да лодкі прадам матор...»,

«Патрэбна нянька для сына»,
«Задачкі рашаць навучу...»
І жарт:
«...Калі ёсць дзе мужчына,
Я замуж, я замуж хачу».

І голас,
Чытаў і не верыў,
І аслупянелы стаяў:
«Разменьваецца кватэра,
Разменьваецца сям'я».

Я чуў яго недзе аднойчы,
Той голас засеў у вушах.
Ужо размяняліся вочы,
Разменьваецца душа.

Навошта такая мена?
Мой горад даўно не Менск.
Той голас прасіў:
«Зразумейце!»
І яго зразумеў.

Цяпла таму голасу мала
І сонца напэўна мала.
Ды гэта не голас, а ўсхліп.
І тут ты прыйшла і сказала:
«Ну годзе, дадому пайшлі!»

Слуп глянуў услед мне не строга,
Кішэў побач горад кішом.
І я, не сказаўшы нічога,
Як цень, за табою пайшоў.

## КРУГ

### Вянок санетаў

Пад небам і на небе — вечны рух,
Наперад рух праз шчасце і пакуты.
Пакуль жывеш ты, круг твой разамкнуты.
Ты прама йдзеш, але жыццё ёсць круг.

Ты кружышся — і кружыцца зямля.
І ліст, дачасна з дрэва абарваны,
І зоркі бляск у прорве акіяна
Зліваюцца ў адзіны Млечны Шлях.

Ты нездарма збіраеш круг сяброў
І вяжаш круг з тугіх шнурочкаў слоў.
Жыццё — вітроў дыханне кругавое.

Як ні жывеш, а толькі раз жывеш.
Замкнёны круг ужо не разарвеш.
Ну вось мы й пагадзіліся з табою.

1

Пад небам і на небе — вечны рух.
І рух спрадвечны у зямлі карэння.
Усё жывое просіць паўтарэння,
За сонцам чэрціць свой нябачны круг.

З галінкі жолуд падаў у раку —
Пайшлі кругі маленькім кругам вока.
І ўбачылася ясна і далёка
На многа год назад, на многа дум.

Ля тога патаемнага стаўка
Сустрэў ты нечакана хлапчука.
Ты будзеш ім праз шмат гадоў пачуты.

Вам з тым згадзіцца прыйдзецца удвух,
Што вечнасць наша — толькі рух і рух,
Наперад рух праз шчасце і пакуты.

2

Наперад рух праз шчасце і пакуты...
І шчасце і пакуты — ўсё яно,
Нібы ланцуг адзін — звяно ў звяно,—
Якім ты змалку да жыцця прыкуты.

А толькі паспрабуй парваць ланцуг,
Цябе трымаць адразу перастануць
Лясы, дарогі, рукі закаханых
І нават рукі цётак-павітух.

Глядзіш, і ў рэчцы апынешся той,
З якой яшчэ не выплыў аніхто.
Не Праметэй, але усё ж прыкуты

Да спраў, людзей, і думак, і хвілін.
Жыццё на круг займаецца адзін,
Пакуль жывеш ты, круг твой разамкнуты.

3

Пакуль жывеш ты, круг твой разамкнуты.
І смела так ідуць у гэты круг
І друг і вораг твой, часцей чым друг.
Тут знойдзецца для кожнага закутак.

Адны пахваляць, іншыя нахлусяць,
А потым і адыдуць па адным,
Як быццам не прыходзілі яны.
І забыццё сляды іх зацярусіць.

Ты радуешся — вораг недзе збег.
З'явіўся новы сябар у цябе.
Залежны ты ад спёкі, завірух...

А ўсё ў жыцці то складна, то няскладна.
Ты прама йдзеш. Арыенцір дакладны.
Ты прама йдзеш, але жыццё ёсць круг.

4

Ты прама йдзеш, але жыццё ёсць круг.
Хоць праставаў ты і трымаўся мужна,
Цярпець не мог шляхоў лягчэйшых,
кружных.
А трэба было, сам цярпеў за двух.

Як часам разрываўся круг сяброў,
Злучаў яго ты найвясёлым словам.
А сам не быў прамоўцам адмысловым
І не цярпеў занудлівых прамоў.

Дні светлыя і шчасныя былі.
З сябрамі ўсё, апроч бяды, дзяліў.
Жыццё за шляхам зноў прарочыць шлях.

Хто ўрэшце ты, хадок ці валацуга?
І галава ідзе ад думак кругам.
Ты кружышся, і кружыцца зямля.

5

Ты кружышся, і кружыцца зямля.
А ўсё ж яна нас хаатычна кружыць,
Слабенькіх, і сярэдненькіх, і дужых,
Каб сталі мы інерцыяй пасля.

Як на асі паскрыпвае яна!
Яна ў руках у вечнасці, як жорны.
А мы ў жмені часу ці не зёрны,
Пакуль яна не перамеле нас.

А ўсё ж калыскай мне была яна,
Сярпом ды і штыком яе жагнаў.
Я сын яе, яе вернападданы.

Мне пра яе пустога не мялі.
І мне на ёй усё яе баліць,
І ліст, дачасна з дрэва абарваны.

6

І ліст, дачасна з дрэва абарваны,
На дрэва зноў хацеў бы я вярнуць,
Сваім цяплом галінку ахінуць,
Што незычліўцам нейкім надламана.

Усё сваё лічу усім зямным,
Адказ трымаць хачу за ўсё зямное.
Мы і зямля — адзінае адное,
З крывінак і пясчынак мы адных.

Калі не будзе на зямлі зямлі,
На што ты абапрэшся, брат, калі?
Калі ж ты у сумненнях пастаянных,

Калі ты спіш, але не знаеш сну,
То можа на зямлю цябе вярнуць
І зоркі бляск у прорве акіяна.

7

І зоркі бляск у прорве акіяна
Да неба йдзе, зірнуўшы на зямлю,
Лагодна усміхнуўшыся камлю,
Яшчэ адным кружком адкальцаваным.

А на зямлі змяняецца ўсё хутка.
І не здзіўляйся, калі ты спаткаў
Аленя — з новым дубчыкам ражка,
Гняздзечка—з маладою жаўтадзюбкай.

Бяжыць жыццё, і вецер б'е у твар,
За рухам сочыць часу акуляр.
Не змераць час па верставых слупах.

А ты даволі хуткі падарожны:
Не йдзеш — бяжыш.
І крок, і шлях твой кожны
Зліваюцца ў адзіны Млечны Шлях.

8

Зліваюцца ў адзіны Млечны Шлях
Твае дарогі і дарогі веку.
Ідзі працуй. Ты не якісьці вецер.
А ветру, пэўна ж, можна пагуляць.

Расце твой сын, а значыць, твой працяг,
І хоць твайго ён шляху не праторыць,
Няхай ён свой не горш, чым ты, паўторыць.
Ты перадай яму свой спрыт і сцяг.

Спрыт хай і згубіць, не ўраніў бы сцягу.
І каб заўжды сяброўства ведаў смагу.
Спачатку крок. Развага прыйдзе потым.

Ты знік увесь. Ты спахапіўся зноў.
Каб круг цябе не сціснуў адзіноты,
Ты нездарма збіраеш круг сяброў.

9

Ты нездарма збіраеш круг сяброў.
Сябры з адчаю выцягнуць заўсёды,
Хоць знойдуцца між іх сябры з нагоды —
Адзін маўклівец, іншы — пустаслоў.

Але адразу выпадзе звяно,
Калі з іх хоць адзін твой стол пакіне.
І тут, заўсёды лёгкі на паміне,
Глядзіш, адчай забыты прыйдзе зноў.

Усё ў жыцці павінна йсці па крузе,
З зямлёю гэтай круглай у саюзе.
Хоць пройдзе век, запомніцца імгненне,

Час узараў баразнамі чало.
Звязаў ты круг з дарог, трывог, сумненняў.
І вяжаш круг з тугіх шнурочкаў слоў.

10

І вяжаш круг з тугіх шнурочкаў слоў.
Няхай не будуць пацеркамі словы
На сукні легкаважнае прамовы,
Калі аддаў ты боль свой ім і кроў.

Яны патрэбны, каб жыццё сцвярджаць,
Узносіць праўду, рушыць настальгію.

Не разумее слоў адна стыхія.
Калі яна гаворыць, лепш маўчаць.

Круціў аднойчы ў Нёмне вір мяне.
Прасіўся я, а ён круціў мацней.
А ён круціў, смяяўся і сваволіў.

А я хіба знаёмства з ім не меў?
Я, можа, гэта позна зразумеў:
Жыццё — віроў дыханне кругавое.

11

Жыццё — віроў дыханне кругавое.
Яно камусьці, можа, й карагод,
Хто хітра абышоў віры яго.
А ты ж заўсёды ў пекла з галавою.

Ты зразумеў не сёння і не ўчора,
Што дамаседства не радня табе.
Спакою сам ты паламаў хрыбет,
Ні ў бога не паверыў і ні ў чорта.

Няхай ва ўсім жыццё цябе абдзеліць.
Каб толькі сябра мець ды верш з надзейных.
А чым не сябар ён, сапраўдны верш?!

Не плач, калі прыпозніцца падмога,
І кліч забудзь, няхай ён і ад бога:
«Як ні жывеш, а толькі раз жывеш!»

12

«Як ні жывеш, а толькі раз жывеш»,—
Часамі чуеш, як даводзіць хтосьці.
Ужо ён думкай недзе на пагосце.
Аблокаў райскіх мчыць над ім картэж.

Жыцця гадзіннік свой ён прыглушыў.
Ён сноў баіцца і заснуць баіцца:
«А калі раптам ноччу навальніца?»
Як быццам ён на свеце і не жыў.

Засценкаў бойся. Бойся сцен таксама.
Працягвай магістральны свой напрамак.
А за сцяною сум ты прыжывеш.

Закружацца і вокны, і вазоны.
І паглядзіш, як быццам круг замкнёны.
Замкнёны круг ужо не разарвеш.

13

Замкнёны круг ужо не разарвеш.
А помніш, як яго мы разрывалі,
Калі зямля хісталася, як шалі,
Блакадны замыкаючы рубеж.

Ты помніш, разрываўся круг блакад
Ля Паліка і тут, у Налібоках.

Жахлівы круг застыў кружком у воку,
Кружком прыцэлу, што наводзіў кат.

Не прыглушыў гадзіннік я тады
На дрыгвяністым астраўку бяды.
Так, трэба йсці, не верачы адбою.

Завалы рушыць і вышыні браць.
І цішыні нідзе не давяраць.
Ну вось мы й пагадзіліся з табою.

14

Ну вось мы й пагадзіліся з табою,
Заручымся і прашчурам давай:
Жыць трэба на зямлі — не гасцяваць,
І жыць, брат, не за пазухай у бога.

Запазухай у бога — гэта проста.
І рухаца не трэба і цяплей.
Жыві сабе, але, але...
Ты ж чалавек. Хай так жывуць прахвосты.

Ужо й радком вянок пара звязаць.
На развітанне што яшчэ сказаць?
Усё для рук тваіх быць мусіць звычна:

Пяро, вінтоўка, скрыпка а ці плуг.
Ты па зямлі ідзеш многааблічна.
Пад небам і на небе вечны рух!



Нехта ў пушчы песню зацягнуў
Пра гаёчак наш і наш лужок.
Я гушчар рукамі расхінуў,
Я управа, ўлева павярнуў,
Але песні так і не знайшоў.

Я забыўся потым пра яе.
Чуў: чагосьці сэрцу не стае.
Помню, восень,
за акном імжа,
Помню,
у бальніцы я ляжаў.
І ў палату, ціхая адна,
Да мяне з'явілася яна.

Я яе на ложак пасадзіў,
Валасоў пагладзіў светлы шоўк,
А яна у вочы мне глядзіць:
«Што ж мяне ты ў пушчы
не знайшоў?
Я хадзіла доўга за табой,
Восенню хадзіла і зімой.

І тады, як чабарок цвіце.
Кожны ручаёк пераплыла.
Ты мяне шукаць не захацеў.
Я цябе сама цяпер знайшла».

## НЯСВІЖСКІ ВЕЧАР

Якія маленькія мы
У гэтым лясным саборы.
Пад купалам небным яго.
Шчасліва запалены зоры.

Што тытуню фіміям,
Кружаць без памяці смолы.
На самай галінцы крутой
Вавёрка сядзіць анёлам.

Вечар.
Багунная ціш
П'е узахлёб нашы словы.
У казкі ўляглістя спаць
З тутэйшым характарам совы.

Цяжэе,
пацеючы, дно,
Хрумсціць агурочак крамяны.
А недзе паўсонны Нясвіж
Суботне ўрастае ў экраны.

Якія вялікія ўсе
Прад тою блакітнаю шыбай.
А мы ў высачэзным бары
Хто? Мурашы мы.

Верыш, трывогі твае
Жарт малады супакоіць.
Ці ўбачыш яшчэ калі
Высокае неба такое.

## НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК...

Знаёмы мой пушчай ішоў аднойчы.
Убачыў сасонку —
загадка з загадак —
Вышэй і званчэй не бачыў ніколі.
— Ссяку,— рашыў ён,—
На ўсякі выпадак.

Другі мой знаёмы меў добрую жонку.
І згода ва ўсім.
І ў хаце парадак.
Ды меў яшчэ некалькі жонак збоку.
Навошта, спытаеце?
На ўсякі выпадак.

Мой трэці знаёмы меў ладную хату.
Але аднойчы рашыў:
— Непарадак.
Мець і ў сталіцы хачу камяніцу.
Навошта, спытаеце?
На ўсякі выпадак.

Чацвёрты ў сталіцы меў камяніцу.
А ў лесе меў сад
і нейкі прысадак.
— І бронь бы купіць на магілках,—
хацеў ён,—
Ат, няхай будзе на ўсякі выпадак.

Даруйце,
Пакрыўдзіў, магчыма, кагосьці.
Ды проста згадалася некалькі згадак.
У іншых чаго толькі часам не знойдзеш.
Ёсць і сумленне...
На ўсякі выпадак.

## ЗАЙЗДРОСНІК

Ходзіць чалавек не то што злосны —
Злосненькі.
Як жа мне дапамагчы
Зайздросніку?
Можа, даць яму лыжку большую
Ці пашыць яму кішэнь шырэйшую?
Можа, боты ён хоча,
боты
З самаходнаю падэшваю?
Даў бы ўсё яму,
што я маю сам,

А каб змог яшчэ,
даў бы райскі сад.
І палац бы даў,
увесь з мармуру.
Ды ўсё,
што ні дай,
будзе мала яму.

## КІЕЎСКІ ЎСПАМІН

Каштанавы град у Кіеве,
Як стук тваіх вострых абцасікаў,
Дзён верасню ясных пакінулі
Дні летнія,
сонцаўласнікі.

Па рэхавых сходках Крашчаціка,
Дзе ўцешна спыняюцца крокі,
Зляці, маё позняе шчасцейка,
І ранню ўсміхніся здалёку.

Я верасень гэты узвеснены
Вазьму пасаджу ў сваім садзе.
Хай потым узыдзе ён песняю,
З зямлёю маёю паладзіць.

Няма ў мяне здымкаў для памяці,
Адна толькі ты разам з вераснем,

Дзе звонка каштаны падаюць
І лёгка ідзецца і верыцца.

Бярозаю беларукаю
Ты свецішся мне у паўзмроку.
Пад вокнамі грукае, грукае
Каштанавы град тваіх крокаў.

## КЛАДКА КАХАННЯ

Рэчка быстрая, рыбная.
Ценю цесна ў лісці.
Тры заставы бабрыныя
Трэба рэчцы прайсці,

Перш чым выйсці, іграючы,
Заламацца ў луку,
Падмываючы раніцу
І душу земляку.

Рыба вяліцца, соліцца
Недзе там на гары.
Берагоў міжусобіца
Паліць кладкі ў кастры.

Тут, дзе вір вар'яцее,
Разгубіўся хлапец.
Яму трэба хоць неяк
На спатканне паспець.

Ён бы там і застаўся.
Толькі як перайсці?
Вір узняўся заставай,
Вір яго не пусціў.

Там у вочках пярсцёнкавых
Дзве затокі смугі.
Хоць бы ніткаю тонкаю
Хто злучыў берагі.

Не зайздросна дзяўчыне
У зарэчным кутку.
Дзве з вачэй ручаіны
Проста ў рэчку цякуць.

Час займае на вечар,
Змрок паўзе на парог.
І хлапцу,
хто б паверыў,
Сам бабёр дапамог.

Ён на беразе гладкі
Ствол вярбы падпіліў.
І лягла яна кладкай,
І такой не спаліць.

...Вось дык рэчка Валмянка.
Воля вечнай вады.
Люстраная маланка
У лугах маладых.

Я, сваяк зарачанцаў,
Можа, шмат дзе блудзіў,
Але плыў па Валмянцы,
Па маланцы хадзіў.

## ЖАНЧЫНА, ЯКАЯ НЕ ХОЧА СТАРЭЦЬ

Ёй ліцца б ракою ды зоркай гарэць.
Нядаўна ж лілася, гарэла.
Не хоча,
не хоча жанчына старэць
І слухаць, што пастарэла.

З люстэркам кладзецца яна і ўстае,
Ў падушкі збіваючы змору.
Ёсць змова з люстэркам даўно ўжо ў яе.
Гады не прымусіш да змовы.

Пабегла дарожка.
Назад не вярнуць —
Дзе знойдзецца сіла такая?

Уцякае жанчына штодня у вясну,
Сама ад сябе уцякае.

Не хоча,
не хоча жанчына старэць,
Сама сабе хлусіць жанчына,
А ўсмешка дыміцца, не хоча гарэць,
Кладзецца паўзмрок пад вачыма.

Усё засталося ў альбомах старых,
Ў лістах запяклося крывёю.
Дзе тое віно, каб глыток паўтарыць,
Дзе тое віно маладое?

Было не да мужа,
было не да сну,
О, як галаву ёй кружыла!
Калі б прадавалі у крамах вясну,
Яна б яе першай купіла.

Гады яе ў восені недзе даўно,
А сукні з вясны ёй прыносяць.
Яна ўсё пад ручку з вясной ды вясной,
Сама ж, як прыгледзішся,— восень.



— Ціхім быў,
Ціха жыў,—
Над магілай казалі
І галовы над ім
Ціха-ціха схілялі.
Быў зацяты, маўчун,
Не пакрыўдзіў нікога.
І хавалі яго
Ля байчэйшай дарогі.

А другі быў крыкун,
Ён крычаў дзе папала.
Крыку тога яго
На тры вёскі хапала.
І хавалі яго
Там, дзе й ветрык не часты.
А па ім, крыкуну,
Лепшы помнік — маўчанне.

## У ГАСЦЯХ

Настрой малады, вечаровы.
Нам жыць, брат, ды жыць на зямлі.
Загадвае гонар паўднёвы
Віна маладога наліць.

Ах, як яно днішчы хіснула!
Ах, як яно коркі рванула!
Аж воблакам пена пад столь.
І нехта стрэйшы прачула
Сказаў,
і зямля ўся пачула:
— Гэй, хлопцы, жывіце за сто.

Вас мала, напэўна, хістала
На хвалях, на рэйках крутых...—
Сястра памяркоўная, старасць,
А мо памыляешся ты?

... Іскрыцца, ліецца густое,
Падміргвае хітранька мне...
Бушуе віно маладое,
Старое ж маўчыць, хоць мацней.

* * *

Там поўня возера ляснога
Cтвалоў рассунула сцяну.
Я шляху не шукаў другога,
Адзін масток,
Другі мінуў.
І выйшаў да чужой палаткі,
Кагось спалохаў, разбудзіў.

Два позіркі,
як дзве загадкі.
Яны адны.
І я адзін.
Ніхто не выйшаў з таго раю,
І я да іх не падышоў.
Што на душы ў іх,
Што я знаю,
Тым болей што ў іх за душой?
Быў час прыпарлівы, не позні.
Стаялі сосны, як званы.
І я пайшоў насустрач поўні,
Якой не бачылі яны.

* * *

Друга праведаць не маю калі,
Хоць недалёка ён, хоць недалёка.
Мы ў адзіноце яшчэ не былі,
Ён жа, мой друг,
адзінокі.
Некалі ўспомнім:
— Жылі ды былі...
Успомнім,
ды гэтага мала.
Маю я друга на гэтай зямлі,
Часу праведаць не маю.



Сціхла ўсё, пакуль я йшоў сюды,
Дзе грымела ўсё і знемагала.
І твае сляды,
як са слюды,
Ноч за вішняком парассыпала.

Ах, якой зайздроснай ты была.
Ты падумай,
гэта ж грэх вялікі:
Салаўёў усіх звяла з сяла,
За сабою павяла музыкаў.

Сціх вішняк,
вушасты, малады.
Маладзік згарэў тваёй усмешкай.
Раскажыце, цёплыя сляды,
Да каго пабегла ноччу сцежка.

## АДАМ

Калі я стварыў цябе, помню,
З рабра свайго, а не з гліны,
Ты стала адразу люстэркам,
Вялізнай і яркаю шклінай.

І колькі ў яе ні глядзеў я,
Сябе аднаго толькі бачыў
І быў за рабро сваё горды
І за сваю удачу.

Ды нейкі знайшоўся зайздроснік.
Як згледзеў цябе ён толькі,
Схапіў на дарозе камень —
Як град, сыпанулі асколкі.

Адны паляцелі ў Нёман,
Над пушчаю празвінелі,
А ўсе астатнія тыя
У сэрцы маім заселі.

* * *

Ёсць па вуліцы Будзённага
Дом — таполі дзве ў двары...
Два акны заўсёды цёмныя,
А адно ўсю ноч гарыць.

Ёсць жанчына там харошая,
Колькі год жыве адна.
Як адна ў струку гарошына,
Адзінокая яна.

З кім ёй дружыцца не дружыцца,
Ведаць толькі ёй адной.
І адна пласцінка кружыцца,
Не змаўкаючы ўсю ноч.

А пласцінка ўся зайграная,
Як раскоўзаны каток.
Ціша,
        вішняй вышываная,
Сцены апляла і стол.

Я аднойчы збег з той вуліцы,
Думаў, гэтак лепш яно.
Ды ішло за мной, аж вусцішна,
След у след, ішло акно.

Рама, як прыцэл, крыжуецца.
Ловіць у прыцэл мяне.
Страшна мне ад гэтай вуліцы,
Ад святла, што ў тым акне.

* * *

Хай спяшаюцца.
                Я пачакаю.
Тут, у скверы, яшчэ пасяджу.
Ах, якая яна мільгаткая,
Гэта позняя кропля дажджу.

У вачах і гарыць і іскрыцца,
Ажно горача тут ад яе.
Мне здаецца яна завушніцай,
Што калісь ты згубіла ў траве.

А яе адшукаць немагчыма,
І цябе мне здалёк не вярнуць.
Ты сустрэчнай дзяўчынкі вачыма
Нагадала мне тую вясну,

А яшчэ і яна, мільгаткая,
Гэта кропля дажджу на траве.
Хай даруюць мне, я пачакаю —
Можа, ў ёй ты сама ажывеш.

* * *

Калі я прыеду ў твой горад,
Далёкая, не мая,
Ты выйдзі ў сквэрык прыдзвінскі
Без лаўкі, без салаўя.

І пойдзем мы ў горад іншы,
Дзе Нёман нязмоўна цячэ,
Дзе многа святла засталося
Ад чорных тваіх вачэй.

Дзе цепліць у скверыку кроны
І сёння дыханне тваё,
Дзе нейкі хлапчук занямонскі
Пужае тваіх салаўёў.

Мы пойдзем,
Мы гэтак рашылі.
А што з нас, адчайных, узяць?!
І ўсе нашы даўнія клятвы,
Як птушкі, услед паляцяць.

І будуць за намі рачулкі,
Як косы твае, віхляць.
Пачне па зваротнаму кругу
Раскручвацца гэта зямля.

І будзе той горад сустрэчны
Здалёк нам агнямі свяціць.
Ды доўга, відаць, аж да смерці,
Ў той горад нам прыйдзецца йсці.

* * *

У таемнасці трысцена,
Дзе стамлёна змрок цячэ,
Чуеш? —
Маладое сена
Стогне ля тваіх плячэй.

Па сцяблiне, муражыне
I прыстрэшным халадку
Два дыханнi, як дзве плынi,
Адным рэчышчам цякуць.

Нават чутна, як спрасоння
Шэпча ў стрэшку маладзiк:
— Самi спаць не будзем сёння,
Iншым сон свой аддадзiм.

* * *

Званiлi ранiцаю з Гродна,
Крычалi ў трубку,
што не мне.
А голас родны,
Надта ж родны
Струменем Нёмана звiнеў.

Зусiм знаёмае дыханне,
Як i тады, як i тады...
Замiтусiлiся ў мембране
Чыесьцi словы i сляды.
Чаму ж не мне?
Я быў не згодны.

«Чаму ж не мне? —
Я ім гукаў,—
Калі званілі з Гродна, з Гродна,
Калі адтуль званка чакаў».

## ПАЧАТАК ЛЕТА

Так лета і павінна пачынацца.
Паводка сонца,
Збег кудысьці цень...
А ты мяне вярнула у юнацтва,
А я туды вяртацца не хацеў.

Калі званіў табе,
рука дрыжэла,
І голас у мембране задрыжэў.
На дваццаць год ты ўся
папрыгажэла.
Я прыгажунь не бачыў прыгажэй.
Раўнуе хтосьці.
Хай сабе раўнуе.
Хай кажа, што яму я не раўня.
Таго, што ўжо было,
ён не зруйнуе:
Заслона перад ім —
далечыня.

У шчасце падымаецца прыступка.
Ступай жа і сумненні ўсе адпрэч.
Цалуе голуб шызую галубку
Ля сіняга фантана нашых стрэч.

Так шчасце і павінна пачынацца.
Па ўзгорках красак залаты мяцеж...
Мы зноў з табой вярнуліся ў юнацтва,
Хоць я туды вяртацца не хацеў.

* * *

Вось і сустрэча.
Пабачыў цябе, і даволі.
Думаю,
            каюся,
                        не разумею цяпер.
Як жа сабе я такое дазволіў —
Проста паклікаў ад мужа цябе?
Выйшла ты з дочкай і сынам па плошчу —
Варту такую паслалі
                                    цябе сцерагчы.
Што ж мы па скверы разгублена крочым,
Што ж мы маўчым?
Там, за гарою,
За нёманскай тою вярстою,

Дзе сіратліва кружыўся кляновы лісток,
Сёння ўспамін мой стаіць сіратою.
Ён і закончыць свой век сіратой.
Мелі мы ўсё: вечары і размовы.
Гэтак спяшаліся ночы світаць.
Слодычы столькі было ў нашых словах,
А засталася адна гарката.

Зноў весяліцца пагодлівы вечар!
І весялосці ён не беражэ!
Ёсць і сустрэчы,
 бываюць сустрэчы,
Што за расстанне любое цяжэй.
Мы развіталіся.
Глуха, панура
Вецер чужы прашумеў каля нас.
З берага кінуў у Нёман акурак —
Недзе ў юнацтве акурак пагас.

* * *

Маня там, праз два двары жыве,
Не ідзе па сцежцы, а плыве.

...Атрасаюць птушкі з крылаў раніцу,
Сінім бэзам зацвітае дзень.

Калі сёння Маня пастараецца,
Калі сінім вокам павядзе,
Хай тады хлапцы асцерагаюцца:
За сабой любога павядзе.

Пастарайся, Маня, пастарайся.
Ў сіні вір вачэй сваіх вядзі.
Толькі і сама асцерагайся,
Толькі і сама не заблудзі.

Ах, як сёння ў садзе нашым хмельна:
І раса...
раса, нібы з агню.
Салавей адзін, і той сямейны,
Топча маладую цішыню.

І за садам недзе вусны смагнуць,
А тутэйшы гонар берагуць.
Ды ідзе з вядром па сцежцы Маня,
І сляды за ёй — бягуць, бягуць...

* * *

Куды жыццё ні кіне нас,
У дзень які і ў край які,
Як для вітання дзве рукі,
Насустрач будзем мы цягнуцца.

На сцежках, вуліцах і ў снах
Не размінуцца б нам,
Не размінуцца...

Я — пад гару, а ты — з гары.
Нібыта даўняя гульня,
Каб уцячы і пераняць,
І у абдымках апынуцца.
Ў гарах,
          у полі,
                    гушчары
Не размінуцца б нам,
Не размінуцца...

Ты можаш ля мяне прайсці,
Як не адна вясна прайшла,
Ў начы палоскаю святла
Чужому некаму ўсміхнуцца.
У час вяселляў і гасцін
Не размінуцца б нам,
Не размінуцца...

Адзіная, ніяк нідзе
Памкненняў нашых не спыніць,
Двух вольных плыняў не разліць.
Яны адной ракой сальюцца.
І ў суджаны апошні дзень
Не размінуцца б нам,
Не размінуцца...



Дыміць касцёр.
А жоўты поплаў
Увесь ад промняў ззалацеў.
Агонь перагарыць у попел.
Згарыць прамень — пакіне цень.

Трымай вядзерца поўным, вочап,
Калі ў мой двор вясна ідзе,
Хоць попел запарушыць вочы,
Ды цень не ляжа на мой дзень.



Сціплы мой верш
Хоча быць і сцяжынкай,
і дрэвам,
І птушыным гняздом,
І птушыным напевам,
Але найперш чалавекам,
Які б разумеў чалавека другога.
І гэта, дальбог жа, нямнога.

# ГАЛОЎНАЯ ВЯРСТА

## Паэма

Кніга вандраванняў і любові,
Я пішу цябе з юнацкіх год.

*Пімен Панчанка*

— Во едзе...
— І мы едзем.
— Ён жа недзе.
— І мы недзе.

*З размовы дзвюх жанчын
у электрычцы*

1

Не доўгі шлях да пушчы —
Сотня вёрст.
Шаша ляціць імкліва,
Як дэпеша.
Ды што шаша,
Яшчэ такі узрост —
Не грэх ісці,
прайсці па свеце пеша.
З-пад каменю —
рухавым ручайком,
Са сцен каменных
Уцячы аднойчы.
У светлы дзень
І нават сярод ночы.
Ісці, ісці...

Чакае родны дом,
Зарой раённай
Працірае вочы.
Там мама колькі раз
За светлы дзень
Жагнае ўсе вакольныя дарогі.
Калі адна з іх сына прывядзе,
Што заблудзіўся невядома дзе,
Дык, значыць, слова даплыло да бога.
Не ведаю, як з богам,
А мяне
Не пакідала, мама, тваё слова.
Ізноў цябе пабачыў у акне,
І рухнулі далёкіх вёрст засовы.
Казаў мой дзед па маці Радзівон:
— Трымайся пушчы,
бо яна здавён
Яшчэ нікога ў горы не кідала.
І нават дрэнным людзям
спагадала.
А добрым дасць загон,
Дабавіць дзён,
А чалавеку дзён заўсёды мала.—
Ён сам па свеце
Многа калясіў.
Быў мараком
І проста быў бадзягам.
А лёс вярнуў у родныя лясы.
У пушчы толькі наталіў ён смагу.

Я, можа, лёс ягоны паўтару
Праз годы,
воды,
моды,
перашкоды.
І дзе пачаўся,
Там замкнецца круг,
Яшчэ адзін
У вечным дрэве роду.

Мяне аднойчы
Крытык папракнуў,
Што ў вершах у мяне
Дарог замнога.
Але ж жыццё само —
і ёсць дарога.
Дык што ж ён хоча,
Мой суддзя найстрогі,
Каб я з дарогі раптам павярнуў?
Дарога зноў трасе мяне,
Хоць плач,
Трасе мяне ля хутара былога.
Мчыць грузавік пушчанскі,
Падкідач.
Цярпення набярыся, мой чытач,
І ты, мой крытык строгі,
Мне прабач,
Што зноў я
адпраўляюся ў дарогу.

2

* * *

Меў рацыю пушчанскі хутарок,
Ён не ўцякаў далёка ад гасцінца,
Самотны,
шэры,
нібы шынялёк
Пацёртага вайною пехацінца.
Гасцінец свой.
Гасцінец не чужы,
Хоць, праўда, без гарантыі спакою.
Гасцінец, ён праз пушчу ўсю бяжыць
Ды праз акно ў чаромсе хутарское.
Захоча госця выглядзіць акно,
Ці аганьком, ці студняю пакліча.
А то бывала, грукне ў шыбу ноч,
І ў будцы шэры мурза заскавыча.

У дзеда казак цэлы воз
з вяршком.
І столькі ж спраў
у хутаранскай хаце.
Зааблачыніць пара над гаршком.
Вы толькі, людзі, хату не мінайце,
Вы толькі, людзі, хату ўспамінайце.

Да вёскі прыглядаўся хутарок.
А ўнук дык болей да таго гасцінца,

Што бег далёка,
Выбягаў здалёк,
Хадок,
вазок,
стамлёны несупынца.
Дзіцячым садам быў мне
родны лес,
Вайна мне цацак не пашкадавала.
Мой інтарэс
на крону елкі лез,
А крона ўвесь гасцінец адкрывала.
Плыў па гасцінцы нейкі грузавік,
Як хатулёк, сагнуўся пехацінец.
А там, далей, з вачэй гасцінец знік,
І болей не паказваўся гасцінец.

О, я яшчэ праедуся па ім.
Праедуся і нават нахаджуся.
А зараз хай ён без мяне пыліць.
Я верхалаз і гэтым ганаруся.

Глядзі: нібы акрайчык, хлапчанё,
А цацку, як праснак, да лесу цягне.

Яшчэ, яшчэ разок яе кульнём —
І коціцца праснак па лесе цяжка.

Да сёння выбух уваччу застыў.
Другая цацка прыгажэй здалася.

І шапка сябра птушкай узвілася,
І чырванню успыхнулі кусты.

Спалохаў лямант хутароў двары,
Вянцом ніжэй аселі хутары.

Дзяцінству з цацак цяжка вырастаць,
Да нас і цацкі самі прывыкаюць.
І ў сталасці было б ці брыдка там,
Каб у кішэнь схавалася якая.

А тыя цацкі страшныя вайны,
Яны нас даганяюць і сягоння.
Ужо і нашы мірныя сыны
Пранеслі выбух у сваіх далонях.

3

У стаяку страляюць вугалі,
І ўсе з прыкметай згодны:
Будуць госці!
— Ты, маці, пару сіненькіх налі
І сала на талерку наскрылі.
Хоць пост,
а калі госці,
Мы не посцім.
Дзед з шафы брытву дастае.
Ён голіцца заўсёды толькі нанач.

Ого, кусачка-брытва,
                    каб — яе,—
Унука нават пакусала неяк,
За што,
        хоць быў зусім нязлосны дзед,
Той самай,
            што вастрыла брытву,
                                дзягай,
Унука адсцябаў як след...
Да дзягі у сям'і была павага.

Ну вось і госці.
Мурзы ланцужок
Да самага парога расцягнуўся.
І дзверы адчыняюцца ужо,
І першы госць пад столлю
                        аж прыгнуўся.
На сценках ажылі слупкі газет,
Ідуць, ідуць з вачэй
                    чаргой няспыннай.
Марудна гірка ходзікаў паўзе.
Ледзь цягне тыя ўпартыя хвіліны.
Маснічыны пад крокамі скрыпяць.
Вышэйшы чын —
                і скрып вышэйшы, значыць.
Унуку што?
            Унуку трэба спаць,
Але унук усё з-за шафы бачыць.

Высокі той паперчыну вымае,
І штось не падабаецца яму:
«Отец, отец, да все я понимаю,
Но этого никак я не пойму!..»

Чаму гэта, не зразумець мне,
ён
Маўчыць зацята, дзед мой Радзівон?
І зноў той голас строгі:
«Как же так —
Изба в избу с тобой живет кулак?»

Прычым кулак,
І чый яшчэ кулак,
Не зразумець унуку аніяк.
Праз трыццаць год
з унучкай кулака
Я дам у лес такога драпака.
І рынецца за намі ўслед тады
З радні,
хлусні
і зайздрасці пагоня.
Ляці,
спяшайся,
конь мой малады.
Пакуль ты малады,
Нас не дагоняць!
Забыты і далёкі хутарок,
Ледзь з памяці цябе разгледзіць зрок!

У саменькае пушчы пад крылом,
Гасцей ці мала тут перабыло.
Хай памяць застаецца.
Згіне злосць.
Няхай не будзе ў хаце госця злога.
Не ведаў, што і сам я ў хаце госць.
Сын не на кут ірвецца —
да парога.
Заўсёды ў маці прадчуванне ёсць.
Чаму ж яна сказала
пра малога:
«Відаць дарога,
суджана дарога...»

4

Стамлёны,
На снягах, то на дажджах
З дарогі доўгай бацька прыязджаў.
Каня ў дварышчы доўга распрагаў.
Страляла у руках, як лук,
дуга.
І конь трывожна ў цемрыве іржаў,
І з грывы высявалася імжа.
У лесаруба вострая далонь,
Пагладзіць — як лязом аголіць скронь.
Ён дастае халодны хатулёк:
— Вось «зайцаў хлеб» табе прывёз, сынок,—
Які ён смачны, гэты «зайцаў хлеб»,

Туды, да зайца ў пушчу, зараз мне б!
І я ўявіў, як заяц у завею
Куляецца і хлеб губамі грэе,
Як ён на лапах потым прыўстае
І хлеб той лесарубу аддае.
Ды я маўчу.
Мне рана у дарогу.
Мне да яе яшчэ,
нібы да бога.
І да свайго і «зайцавага» хлеба
Мне, як да неба.

5

Улетку
дзед злаваўся: «Насланнё!»
У пушчу навалiла цыганнё.
Здалёк ці зблізку заявіўся табар.
Здароў, цыган,
дарог і сонца сябар!
Ля рэчкі вырас, як стажок, шацёр.
Каля шатра, нібы шацёр — касцёр.
Страляе, як умее ён страляць.
Аж іскры ў хутарскі саган ляцяць.
Агонь вясёлым скача цыганом,
І бераг увесь ходзіць хадуном.
Не спяць,
дрыжаць ад страху хутары,

І рвуць сабакі цемрыва ў двары.
У стайні конь узят на тры замкі,
На стрэльбах насцярожаны куркі.
Цыган —
і канакрад, і куракрад,
Цыган — самому ветру
родны брат.
Тачыла ў цыгана ў руках
бяжыць.
Да нейкай бойкі вострацца нажы.
Гарыць касцёр...
Ну, годзе выдумляць,
Цыган, ён проста любіць пагуляць.
Яму палацаў, цыгану, не трэба.
Яму шацёр патрэбен толькі неба.
«У нашай студні смачная вада.
Ты пі, цыганка,
Потым пагадай.
Усю-усю нам праўду раскажы.
Ты не хлусі,
Сумленна варажы.
За праўду хоць і пеўня забяры»,—
Цыганку маці моліць у двары.
«Казённы дом»,
а потым «райскі сад»,
Зашмат цыганка дорыць мне,
Зашмат.
Яна бярэ ў руку маю далонь,
Дрымоціцца вачэй яе сутонь.

8*

— Сынок,
Дарогі тры табе даў бог,
Адзін павінен ты прайсці
За трох.
Памчацца леты, годы прамінуць,
Сальюцца тры дарогі у адну.
Далёка недзе,
за лясамі там,
Сынок, твая галоўная вярста...
— О, не,
Я вёрст ніякіх не хачу.
Гадай яшчэ.
Я добра заплачу.
Не, я дарогам сына не аддам.
Гадай нанова, мілая,
Гадай! —

У маці вочы мокрыя ад слёз —
На што ж пушчанцу той цыганскі лёс?
Ды што ты, мама,
Варажбе не вер.
За сонца табар недзе адплыве.
А тры дарогі,
што мяне дагоняць,
Яшчэ падрэмлюць трохі на далоні.

6

Перш чым выбраць сяброў,
Чалавек выбірае дарогу.
Сам гасцінец павёў
Мяне ў людзі, малога.
Ледзь свіціцца прамень
За прысадаў плячыма.
Шлях у школу вядзе
Праз узгоркі, лагчыны.
Дзве таполі...
Сасна...
Тры, чатыры...
А многа...
Арыфметыку нам
Выкладае дарога.
Палічы ўсе ствалы
Па дарозе дадому.
Ураўненняў наплыў
Ці з адным невядомым?
Невядома,
Хто тыя прысады садзіў,
Хто палац збудаваў,
У якім сёння школа,
Невядома,
Хто гром угары разбудзіў,
Невядома,
Хто выдумаў крылы і колы.
Невядома,

Чаму час імгненна бяжыць
І адкуль узялося
Возера Кромань.
А пад зоркай у жыце
Самотна ляжыць
Баец невядомы.
Невядома,
Чаму йдзе вясна за зімой.
І чаму на жытнёвай сцяблінe
Заломы.
Ды і што за гасцінцам,
За пушчай самой —
Невядома.
У дварышчы прышкольным —
Чаромхавы чад.
І дыханне ў прысадах —
Вяснова-мядовае.
А ў мяне на далоні
Застылі, маўчаць
Тры дарогі,
Усе невядомыя.

7

Ад дарог заракала
Пушча-маці мяне,
Спагадала бадзягам:
— Як забудзеш свой дом,
Будзе блага, ой, блага.

Прападзеш
Недзе там, на чужой старане.
Ёсць бязгнёздыя птушкі,
Людзі ёсць бесхацінцы,
Ды такую я песню
Пачуў на гасцінцы:
— Што ж ты, пташачка,
Невясёла спяваеш,
Што ж ты, пташачка,
Гняздзечка не маеш?
— Звіла б я гняздо пры дарозе.
Дык баюся — пылам запылюся.
Звіла б гняздо на бярозе.
Ой, дык баюся — бярозку зрубяць,
Мяне згубяць.
Звіла б гняздо,
Гняздо на лужочку,
Дык баюся — вадою заллюся.
Без гнязда мне жыць,
Век лятаючы.
На крыле сваім засынаючы.
А з-за цёмнага бору,
З-за сіняга гаю
Выплывала насустрач
Песня другая:
— Ой, чаго, лосю, ой, чаго дзікі,
То к сялу прылягаеш?
Ай, ці ты, лосю, ай, ці ты, дзікі,
Сцюдзёную зіму пачуваеш?

— Чую не чую, віджу не віджу,
Не цёплае летка будзе.
Цёплае летка скора мінецца,
Зіма нас застудзіць.
А ўлетку хаджу,
Расіцу тапчу,
Зялёную траўку скубу.
А ўзімку хаджу,
Белы снег тапчу,
Сухую лазу грызу.—
Часта, песня, была
Ты мне перасцярогай.
І таму я цябе
Браў з сабой у дарогу.
І турбот і прыгод —
Усяго нам хапала,
І часамі з цябе
Жартаваў я, бывала:
— Чым ты не пара,
не таварыш?
Бадзягай тут не назавуць.
Глядзіш, і колы, калі ў пары,
Ого, як весела бягуць.

8

Многа вёсен таму назад,
Многа песень таму назад
Пасадзілі мы з бацькам

У пушчы сад.
Разрастаўся сад.
З салаўём гаманіў.
Яблынь столькі ў ім,
Як па вёсках радні.
Сад разросся. А тут
З пушчы рой заляцеў.
Як на грушу зірнулі:
Рой на грушы расце.
Барада з барод
На галіне вісіць.
Проста голай рукой
Яе не схапіць.
Татарыцкі, сусед.
На падмогу ідзе.
Барадаты сам,
Рады ён барадзе.
Рой у рэшата ён
Вельмі лоўка атрос.
А знаёмы ляснік
Вулей тут жа прывёз.

Год мінуў,
і той рой
Адраіўся яшчэ...
Гаспадарка, ого.
Мала дзён і начэй,
Каб дагледзець усё,
Каб агледзець усё,

Не хапае вачэй.
Гляне бацька на сына,
Можа, у ім гаспадар той сядзіць.
Ну, а сын на дарогу
Балюча глядзіць.

9

Эх, сотая,
галоўная вярста!
Я лёсам птушка
З птушак пералётных.
Мне адлятаць
І зноўку прылятаць,
Мне самы шлях нябліскі,
Той, зваротны.
Да станцыі
не бліска ад цябе,
Дзе мой вагон
Даўно мяне чакае.
Ну, што ж ты, брат,
Вясковы верабей?
Табе па крылах доля гарадская.
Не тры дарогі мне жыццё дало,
А сама меней —
Самых розных трыста.
Не для карысці нейкай асабістай
Пусціўся я ў бадзяжны свой галоп.

Але запомніў добра я адну
З усіх дарог —
галоўную дарогу,
Што ад парога тога хутарскога
Я працягнуў у сталасць,
як струну.
На ёй звінелі многія вятры,
Каціліся маланкі шаравыя.
На ёй цяжкія гразлі трактары,
Клялі яе пушчанцы-ездавыя.
Няроўная,
з выбоямі была,
Але не адхілялася кірунку.
Паўзла,
кульгала,
тупала й гула.
І ўсё ж была струной,
Дарогай стрункай.
Па ёй ад івянецкіх саснякоў
Я першы пашпарт нёс
І першы верш свой.
Ішоў дарогай звыклай землякоў,
Ды ўсё ж у чымсьці быў, напэўна,
першым.

І рад я, друг мой,
Што з галоўнай той
Я выйшаў на галоўную краіны,
Дзе не плылі — ляцелі ўжо машыны,

І лёгкія,
нібы з крыла пярыны,
І з цяжарам,
што важыць многа тон.
Яна была натруджана,
як трос,
Нацягнуты магутнымі рукамі
Між сэрцамі людзей
і між вякамі,
І сэрцам я тады сваім адчуў:
Мая струна ў тым тросе зазвінела.
Аж стракаталі дрэвы уваччу,
Мая вярста галоўная ляцела.

10

Не, збочваць я не думаў
З галоўнае вярсты.
Быў да хады гарачы,
А тут зусім астыў.

Дарога. І палову
Не пройдзена яе.
А тут бажок сямейны
Так ласкава пяе.

Ужо гатовы ранец,
У кішані — блакнот.

І развітальна трэцца
Ля калашыны кот.

Каб не пакрыўдзіць звычай,
Перш чым пайсці, прысеў.
Прыйшоў руку паціснуць
На розвіт мне сусед.
А ногі як чужыя,
А ногі не ідуць.
Іду й кляну такую
Нядобрую хаду.
Ну што са мной такое?
Ах, вунь што... Рэўнасць, ты?
Сыдзі, цябе прашу я,
З галоўнае вярсты.

* * *

Не, збочваць і не думаў
З галоўнае вярсты,
Хоць знаў, што недзе ў пушчы
Жывеш, смуглянка, ты.
Сядзіш ты за фіранкаю,
Далёка ад дарог.
Дарэмна ад залётнікаў
Я так цябе бярог.
Цукерачкі-падушачкі
Ты весела жуеш.

І мілага ў падушачкі
Штовечара кладзеш.

Калі б аднойчы вечарам
Цябе мне прывітаць.
Я ведаю, дазволіла б
Мне гэта ўсё вярста.

Тры дні я йшоў.
Тры ночы йшоў.
А на чацвёрты дзень
З касцамі занямонскімі
Я ля кастра сядзеў.

Спрачаліся, курылі мы
І ганілі жанок,
Пускаючы па крузе
Нясмачнае віно.

«Мо хочаш,— мне сказалі,—
Прысватацца у нас.
У нас людзям заезджым
Вялікая цана.
Табе ўдавіцу знойдзем,
Сватоў табе дамо...»
А я ўжо быў сасватан.
З кім?
З пушчаю самой.
Вярста мая, скажы мне,

Ці роўна ты ідзеш.
Гляджу, бяжыш управа,
То ўлева ты бярэш.
Па волі той цыганкі
Расстройваешся ты.
Ды не губляеш звання
Галоўнае вярсты.

11

Тупаць ад аўтобуса ці мала,
Рукі адрывае сакваяж.
Сёння йду,
як і хадзіў, бывала,
Лепшаю, дарога, ты не стала,
Хоць якая ты, а ўсё ж свая.

За сем вёрст шасейка гаманкая.
І асфальт пралёг уга які!
Мы ж чакаем,
Мы дык пачакаем.
Свой аўтобус аж у Навікі.
Мы сядзім на мосціку драўляным,
Курым мы з тутэйшым пастухом.
І пра той аўтобус зачаканы
Звыклае ды ўцешнае вядзём.
«Спраў,— ён кажа,— многа.
Натуральна.

Неспакойна, бачыш, на зямлі.
Быў бы ты, як гэны,
геніяльны,
Можа б, і хутчэй нам правялі
Асфальтоўку тую...
Мо змаглі б...»
«Вось было б,— пастух мне кажа,—
добра,
Вось бы да дзянька таго дажыць.
Толькі ж доўга,
Нешта надта доўга
Ён да вёскі нашае бяжыць».
Курыць сам.
Ляжыць адкрыты пачак:
«Гарадскі салодкі надта ж дым.
Ну а наш: зацягнешся — і ўбачыш
Ўсе як ёсць адразу гарады.
Гарадское ўсё, брат, не такое,
Чуў я, ў песні некае пяюць.
Ты ўжо калі што там, брат, якое,
І мяне, старога, не забудзь».

І пакуль гамонка не згасае
І агонь цыгаркі не патух,
Круцячы пажоўклымі вусамі,
Раіць заклапочана пастух:
«Ты вось што,
Ты гэта... не скупіся.
Бачу, што жывеш не з мазаля.

Смеласці вось толькі набярыся.
І купі...
Каго?
Ды «жыгуля».
А не зможаш...
Ды напэўна зможаш.
А не зможаш... бацька дапаможа.
Я дык вось не піў,
Крыху капіў
І свайму купіў...»

## 12

Сядзелі доўга мы на мосце,
За дрэвы сонца папаўзло,
І тут з кустоўя выйшаў хтосьці:
«Хтось незнаёмы у сяло?»
Ішоў з малінніку няйначай,
Увесь аброшаны, што квач,
Паходкаю яшчэ юначай
У гумовых ботах барадач.

Ён даў тутэйшае «дзень добры»,
Прысеўшы з намі, закурыў.
Як быццам чалавек і добры
І добра быццам гаварыў.

Пасля дастаў з халявы карту
І на каленях разгарнуў.

Што ж, мабыць, карта ўвагі варта.
Ён на яе, на нас зірнуў.

Сказаў, здалося, што не жартам:
— Шукаю рэчку тут адну.
Яна павінна быць вось тут.
Геолаг я. Я карце веру.
Ракі ж няма, што за халера,
Адны кусты вакол растуць.
Вы памажыце, вы парайце.
Ці я бадзяюся дарма.
Як дзіўна, ёсць рака на карце,
А на зямлі яе няма.

У пастуха — з вачэй маланкі:
— Якую рэчку, пачакай?
Калі шукаеш ты Лубянку —
Яе ты ў памяці шукай.
Чаму ж, была...
Во й мост застаўся.
Кідала рыбку ў нераты.
Ды скуль аднойчы госць узяўся
Такі вось точна, як і ты.
Прыехаў ён такім жа часам,
Прытупаў пеша ад шашы.
Ён асушыў спачатку чарку,
А потым рэчку асушыў.
Ад рэчкі, бачыш, ані сведкі,
Хоць след застаўся ад яго:

Даўно ўжо бегае ў суседкі,
Як кроплі дзве, такі ж шчыгол.
Рака не ўстане з мёртвых, браце...
Геолаг змрочна дым цягнуў.
Сядзеў, маўчаў.
І ўсё ж на карце
Якісьці крыжык крамзануў.
Ужо размовы сціхлі словы,
І цень паплыў ад дрэў, ад стрэх.
І кропкай нашае размовы
Дзесь браканьера грымнуў стрэл.

13

Дзень марозны, дзень, як звон, зімовы.
Кронай пара над канём расце.
Сыплем з бацькам сёння мы па дровы
На сваёй галоўнае вярсце.
«Добра,— кажа бацька,—
што вярнуўся.
Прывязём дамоў крыху цяпла».
Конь ледзь аглаблёю дакрануўся —
Пушча загула,
нібы піла.
Недзе побач тут былі зямлянкі.
Не, не спалі ў шапку землякі.
Ворагу далі на абаранкі,
Будзе помніць аж на ўсе вякі.

Грала пад палоззямі дарога,
І цягнуўся след сярод лашчын.
Паласой адною — да былога,
А другой — да сённяшніх навін.
«Помніш...»,
«бачыш»,
«глянь ты»...
Беглі словы.
Помніў, бачыў...
і здзіўляўся ўсім.
«Прыгажосць якая.
Хоць і дровы...
І яны, брат, трэба нам, жывым».
Па вачах раптоўна разанула
Зыркае, іскрыстае святло.
Поле, нібы цеста, паплыло,
І чыясьці постаць мільганула.
Роўная, марудная хада.
Снегу столькі,
ногі цягнеш ледзьве.
А шаша далёка,
не відаць.
Ну, а мы па дровы, значыць, едзем.
Ён ішоў і цёр рукой шчаку.
Падмарожвала шчаку, няйначай.
У худым, як клічнік, юнаку
Я сябе пазнаў і ледзь не плачу.
Не, гэта не я.
У той дзень тады

Быў зусім я блізка ад бяды.
Ў сто ваўчыных глотак завіруха
Выла,
і сціскала сэрца скруха.
Я ішоў адзін. Са Стоўбцаў пеша.
Хто мяне, не ведаю, прыспешваў.
Ступіш, і свайго баішся кроку.
Хоць бы дзе адна у полі кропка.
Я іду, і падаю,
і плачу.
Ані кропкі анідзе не бачу.
Раптам як маланкай секанула,
І мяне з зямлёй ускалыхнула.
Мчалі сані,
Аж спявалі сані.
Вось ён, паратунак гэты самы.
Ды прамчалі сані з песняй п'янай,
Ім было, відаць, не да мяне.
Сані з воч мне слёзы выкрасалі,
А завейны шал мацнеў, мацнеў.
І праз шал той дзікі,
нездаровы
З тых саней яшчэ зляцелі словы:
«Нашы едуць,
Вашы йдуць,
Нашы вашых
Падвязуць».
У завейных лапах вузлаватых
Стаў я сам, здалося, ледзяшом.

Я дайшоў тады да роднай хаты.
Каб не злосць,
напэўна б, не дайшоў.
Я і сёння тыя сані помню.
Ды і ў снах не раз іх даганяў.
Бачыш: ні слядочка ў роўным полі,
Чуеш, тата, супыні каня.
Дроў мы прывязём —
высока сонца.
Бачыш,
прытаміўся і азяб.
Падвязі здарожанага хлопца
За ўспамін вось гэты мой хацяб.
Вернемся дамоў мы на змярканні
Пад вядзерны вечаровы звон.
За сталом — матуліна чаканне,
Непакой яно,
а не дакор.
Завяршайся добрым словам, будзень.
Дню вячэра позняя — вянок.
Дыхае разварыстаю бульбай,
Весела паруе саганок.
Як тады,
на хутары пушчанскім
Да маіх дарог за многа год.
Сціплы бохан свой,
Не пазычанскі,
Чарачка з вясёлаю смугой.
Дзеда твар прымрою.

Госці ў хаце,
І бабулі голас: «Выбачайце,
Выбачайце, можа, што не так».
Ходзікаў знаёмае «цік-так».
Стрэлкаю бяжыш па цыферблаце
Ты, мая галоўная вярста.
Век гартай, а не перагартаеш
Памяці зацятую бязмеж.
Як жывеш, галоўная,
пытаю.
Бачу, што нядрэнна ты жывеш.

14

Зноў сяджу ў заценні пры дарозе.
Позніцца з Кляцішча лесавоз.
Дагарае лісце на бярозах,
Падыходзіць восень да бяроз.
Еду зноў з твайго, вярста, дазволу.
Роднага нідзе няма радней.
І такім здаецца невясёлым
Чамадан дарожны ля мяне.
— Чамадан абцёрся,—скажа той-сёй,—
Валацуга...—
Што ж, ён адгадаў.
У дарозе я і сам абцёрся,
Стаў, як той дарожны чамадан.
Рады, што сабраўся,

Што праведаў
Вас, сябры мае,
Мае сляды.
Для таго, напэўна, я і еду,
Каб вяртацца зноў і зноў сюды.

## 15

Калі падае бяроза ў Налібоках,
Стогн яе ляціць да мінскіх вокан.
Стогнуць, стогнуць цяжка лесавозы,
Везучы за свет маю бярозу.
Праз завеі,
праз гады,
трывогі.
Йдзе са мной бяроза у дарогу.
І святло яна мне, і цяпло,
І вясло, і лыжка за сталом.
Йдзе са мной,
дарога, паглядзі,
Тая,
што мой прадзед пасадзіў.
Стогне пад гарою лесавоз,
Як і дрэва гэтае стагнала.
Я пайшоў аднойчы ад бяроз.
А бяроза ўсё ж мяне дагнала.
З тварам той зямлячкі хутарской,
З цёплаю, нібы вясна, радзімкай,

Доўга праз гумнішча, да якой
Вечарамі цёмнымі хадзіў я.
Што нас развяло, як берагі?
І не злучыш кладкаю ніякай.
Ты адным пайшла,
а я другім.
Ты заплакала,
І я заплакаў.
Можа, вінават ва ўсім айчым,
Што высочваў нас ля позняй хаты.
Ды айчым, напэўна, ні пры чым,
Сам я ў тым, напэўна, вінаваты.
Не забыць мне стройную бялянку,
Што расла самотнаю ля ганку.
Сёння зноў спаткаўся з ёй у пушчы.
Паглядзеў —
і вочы аж заплюшчыў.
Падала бяроза і стагнала,
І мяне праз дваццаць год дагнала.

* * *

Што ж, паблукаў я многа па зямлі.
Ды пушчы я не здраджваў аніколі.
Вужышчам вузлаватым араллі
З табою звязан я навечна, поле!
Без думкі пра цябе мне не заснуць,
Вышэй, чым ты, не ведаю я сану,
Калі я дэзерцірам тваім стану,

Ты, поле, палявым судом мне будзь.
Я не хачу, каб град цябе хвастаў
І каб капыт вайны цябе капыціў.
Бяжыць мая галоўная вярста,
Што васількамі высвечана ў жыце.
Пасецца конь на лузе маладым,
І у ласёў ідзе каранаванне,
Адроствають, галіняцца рагі,
І востра на рагах палае ранне.
Даруй, мой крытык, строга не судзі,
Што доўга йшоў я.
Пэўна, колькі можна.
Я ведаю, табе не дагадзіў,
Ды за сабой хоць крыху павадзіў,
Каб не таптаўся ты на раздарожжы.
Не ўсіх сустрэлі, што маглі сустрэць мы.
Не ўсё прайшлі мы,
што прайсці маглі.
Вятры ўспамінаў гурбы намялі,
Пакуль мы недзе бавіліся ў леце.
Я, мабыць, хутка каляндар гартаў,
Ледзь паспявалі птушкі ў клін
раўняцца.
Ляці, мая галоўная вярста,
Пакуль не маеш часу прыпыняцца.
Не скажаш, шанцавала у жыцці.
З сядла ці раз, бывала, выбівала.
Ляці, мая галоўная, ляці,
Я не хачу, каб ты адпачывала.

Радок прыспешваць толькі не хачу,
Хоць ён яшчэ не самы мой галоўны,
Ды мой усё ж,
а значыць рызыкоўны —
Жыццём сваім я за яго плачу.
Хачу, каб жыў у згодзе гэты свет
І з небам чыстым,
і сумленнем чыстым.
Калі сакрэт,
то з праўдаю сакрэт,
Калі прастор,
то з воляю вятрыстай.
Хачу, каб сад шумеў
на той вярсце,
Хай з яблыкам і птушку сад гайдае.
Хай тая,
што я сам садзіў, расце
І на сяброўку ценю не кідае.
Лясны мой край,
Зялёны мой адчай,
З тваёй вярсты мне і ў дзяцінства
блізка.
Павер, нашчадак, на маіх вачах
Тут вырас лес каменны абеліскаў.
Ніякім горам не сагнеш мяне,
Знаёмы з ім мы.
І даўно як быццам.
Адно любоў,
яна за ўсё мацней.

Ёй зноў хачу ад сэрца пакланіцца,
Любоў мая,
Шануй мае лясы
І узвядзі памёршай рэчцы помнік.
У крыўду не давай сваёй красы.
Адну красу другой красой дапоўні.
Ужо і поўдзень мой не за гарамі,
Ды ты, бяжы, вярста мая,
не стой.
Пражытае не вымераць гадамі,
Пражытае я мераю вярстой!

## ЗМЕСТ

**Камейша К.**

К18 Галоўная вярста: Вершы і паэма.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 143 с.

У пер.: 65 к.

Трывожна і пранікнёна гучыць голас паэта, калі ён закранае пытанні аховы роднай прыроды, яе хараства і незлічонага багацця. У кнізе нямала вершаў, якія напісаны ў выніку паездак за межы рэспублікі.

Паэма «Галоўная вярста» прысвечана жыццю калгаснага сяла.

К $\frac{4702120200-025}{М302(05)-85}$ 85

**ББК 84Бел7**
**Бел2**

**Казимир Викентьевич Камейша**

ГЛАВНАЯ ВЕРСТА

Стихи и поэма

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак М. М. Селяшчук. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Т. Ю. Гузава

ІБ № 2129

Здадзена ў набор 20.06.84. Падп. да друку 11.10.84. АТ 06638. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера афс. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,50. Ум. фарб.-адб. 4,76. Ул.-выд. арк. 4,49. Тыраж 2000 экз. Зак. 490. Цана 65 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.